ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!

Каталіцкі ВЕСНІК

№6 (123) чэрвень 2021 год

CATHOLICNEWS.BY

# “Будаваць новую Беларусь на хрысціянскіх каштоўнасцях”: арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч на фэсце ў Глыбокім

Стар. 7

## “За голас на выбарах маглі растраляць”. Беларускі святар пра працу місіянерам у Афрыцы

Стар. 4-5




## Пра веру, патрыятызм і гасціннасць у Грузіі. Інтэрв’ю з беларускай сястрой-місіянеркай



Стар. 8

## На международной медицинской конференции в Витебске анализировали проблемы и последствия пандемии коронавируса

Стар. 3



Больш матэрыялаў чытайце на сайце Catholicnews.by



# Святы Пасад зрабіў заяву па Беларусі

**Кіраўнік Залы Друку Святога Пасаду Матэа Бруні апублікаваў заяву па Беларусі. Яна стала адказам на шматлікія запыты журналістаў.**

**■ кс. Аляксандр Амяльчэня**

“Святы Пасад працягвае ўважліва сачыць за развіццём сітуацыі ў Беларусі і крокамі, якія робяцца рознымі зацікаўленымі суб’ектамі, захоўваючы прыхільнасць да дасягнення дэмакратычных і мірных шляхоў рэалізацыі законных патрабаванняў беларускага народа”, – гаворыцца ў афіцыйнай заяве.



Нагадаем, што 16 жніўня 2020 года, падчас нядзельнай сустрэчы з вернікамі, Пантыфік асабіста спаслаўся на тое, што адбывалася ў тыя дні ў Беларусі. “Мае думкі накіроўваю ў дарагую Беларусь. З вялікай увагай сачу за сітуацыяй, якая склалася пасля выбараў у краіне. Заклікаю да дыялогу, да спынення гвалту, заклікаю паважаць справядлівасць і права. Давяраю ўсіх беларусаў апецы Багародзіцы, Каралевы супакою”, – сказаў тады Папа Францішак.

# На мыліцах праз Арктыку:

## Папа сустрэўся з незвычайным атлетам

**Святы Айцец удзяліў бласлаўленне часткова паралізаванаму ліванскаму спартсмену, які збіраецца ў пешае падарожжа праз Арктыку і падкрэслівае, што “інваліднасць – гэта стан духу”.**

**■ Аляксандр Панчанка**

“Памаліся за мяне, калі будзеш там”, – з такім словамі Папа Францішак звярнуўся да Мішэля Хадада, прафесійнага атлета і Пасла добрай волі ААН у пытаннях аховы навакольнага асяроддзя. Пантыфік сустрэўся з ім падчас агульнай аўдыенцыі, якая 2 чэрвеня прайшла ў Ватыкане.

Хадад распавёў Святому Айцу сваю гісторыю і падзяліўся неверагоднымі планамі: пераадолець пешшу сто кіламетраў праз Арктыку ў кірунку Паўночнага полюса. Складанасць місіі заключаецца ў тым, што спартсмен мае парушэнні маторных функцый. Падчас здарэння на водным матацыкле, якое ён перажыў у шасцігадовым узросце, у яго было паралізавана 75% цела. Але не была паралізаваная воля.

Спачатку Мішэль перасоўваўся на інвалідным вазку, потым на мыліцах, цяпер у яго распараджэнні ёсць экзашкілет. Дзякуючы цяжкім трэніроўкам і дапамозе медыкаў ён ходзіць на лыжах і займаецца альпінізмам, утрымліваючы тры сусветныя рэкорды.

“Няма нічога немагчымага. Як чалавек, які не можа хадзіць, уставаць і садзіцца самастойна, я вырашыў даследаваць свой патэнцыял. Я зразумеў, што няма нічога немагчымага. Усё гэта дзякуючы дзвюм рэчам: веры і рашучасці. Веры ў нашага Стваральніка і веры ў самога сябе”, – сказаў Хадад у каментары для Vatican News.

Полымя хрысціянскай веры ў сэрцы прывяло Мішэля да ўдзелу ў шматлікіх кампаніях з мэтай прыцягнення ўвагі да людзей у такой самай сітуацыі, у якой апынуўся ён. Хадад ужо ўздымаўся на горныя вяршыні, праходзіў праз пустыні, удзельнічаў у двух дабрачынных марафонах, каб сабраць грошы на адбудову бальніцы ў Бейруце, знішчанай выбухам у жніўні 2020 года. Цяпер яго чакае новы выклік.

“Прайсці сто кіламетраў да Паўночнага полюса – гэта не толькі пасланне, але таксама ўклад у навуку”, – сказаў актывіст, падкрэсліваючы, што яго місія паспрыяе даследаванням, якія павінны даць магчымасць людзям зноў хадзіць з дапамогай новых сістэм.

Папа Францішак блаславіў атлета і папрасіў памятаць пра яго ў малітве, а гэта, як прызнаўся Мішэль Хадад, дадае яму сілы.



*Старонка падрыхтавана па матэрыялах сайта беларускай рэдакцыі Vatican News*



# Пантыфік сустрэўся з жанчынай беларускага паходжання – былым вязнем Аўшвіца

**Святы Айцец сустрэўся з Лідзіяй Максімовіч, якая ў маленстве перажыла жахі канцэнтрацыйнага лагера Аўшвіц-Біркенау і эксперыменты сумнавядомага Ёзэфа Менгеля.**

**■ Аляксандр Панчанка**

Кароткая сустрэча адбылася 26 мая на заканчэнне агульнай аўдыенцыі ў Ватыкане. “Калі Папа падышоў да мяне, я закасала рукаў і паказала яму лагерны нумар. На імгненне ён спыніўся, узяў маю руку і пацалаваў гэты нумар”, – распавяла 77-гадовая грамадзянка Польшчы беларускага паходжання ў інтэрв’ю Vatican News.

У якасці падарунка Лідзія Максімовіч уручыла Францішку бела-блакітную хустку з лацінскай літарай “Р” у чырвоным трохкутніку, якія былыя польскія вязні Аўшвіц-Біркенау апранаюць падчас памятных мерапрыемстваў, карціну з выявай маці і дзяўчынкі, што трымаюцца за рукі на фоне лагера смерці, а таксама ружанец з выявай св. Яна Паўла ІІ, які спецыяльна для Папы блаславіў яе хросны сын, каталіцкі святар.

Лідзія Максімовіч (пры нараджэнні Людміла Бачарова) нарадзілася ў вёсцы Прыбыткі на Полаччыне. Калі тэрыторыя Беларусі была акупавана нацыстамі, а бацька пайшоў на фронт, сям’я дзяўчынкі хавалася ў лесе, але была схоплена немцамі і адпраўлена ў турму ў Віцебску, а адтуль у канцэнтрацыйны лагер Аўшвіц-Біркенау.

Трохгадовая палонная атрымала парадкавы нумар 70072, які быў вытатуяваны на яе руцэ, а падчас “селекцыі” была прызнана “прыдатнай” для эксперыментаў вядомага як “анёл смерці” доктара Ёзэфа Менгеля. У прыватнасці, на ёй выпрабоўваліся прышчэпкі ад вірусаў, прызначаныя для нямецкіх салдат.

Пасля вызвалення лагера, у 1945 годзе, дзяўчынку прытуліла ў сябе польская сужэнская пара. Лічалася, што яе маці загінула. Праз сямнаццаць гадоў, аднак, Лідзія даведалася праз Чырвоны крыж, што яе маці і бацька жывыя і ўвесь час шукалі яе. У 1962 годзе яны сустрэліся, але дзяўчына вырашыла застацца з прыёмнай сям’ёй у Кракаве.

У Італію з Польшчы Лідзія Максімовіч прыбыла па запрашэнні турынскай асацыяцыі La Memoria Viva, каб падзяліцца з моладдзю сваім сведчаннем, якое знайшло адлюстраванне ў дакументальным фільме італьянскага рэжысёра Эльза Мэрло “70072 Дзяўчына, якая не ўмела ненавідзець” (70072 La bambina che non sapeva odiare).

**Каталіцкая капліца ў анкадыспансеры ў Віцебску**

У Віцебскім абласным клінічным анкалагічным дыспансеры па адрасе вул. П. Броўкі, 33 дзейнічае каталіцкая капліца.
Святая Імша адпраўляецца кожны аўторак а 16.00.
Ёсць магчымасць запрасіць святара ў палату.
**Тэл. +375(29) 510-20-77 кс. Андрэй Аніскевіч**
**Тэл. +375(29) 894-55-11 сп. Яўгенія**

## Пакой для малітвы

у Віцебскай абласной бальніцы знаходзіцца на другім паверсе галоўнага корпуса каля ліфта з боку неўралагічнага аддзялення.

Малітва – набажэнствы, магчымасць сустрэчы з каталіцкім святаром: сакрамантальная паслуга, размова, кожны чацвер з 17.00.
Са святаром можна скантактавацца па тэлефоне:
+ 375 29 78 51 298

# Итальянская монахиня, убитая в ходе сатанинского ритуала, объявлена блаженной

**Итальянская монахиня, которую более двух десятилетий назад девятнадцать раз ударили ножом три девочки-подростка, беатифицирована Католической Церковью как мученица 6 июня этого года.**



За несколько часов до церемонии беатификации Папа Франциск похвалил сестру Марию Лауру Маинетти и назвал её убийц "пленниками зла". Беатификация – последний шаг в Католической Церкви перед возможным признанием святости.

Сестра Мария Лаура Маинетти из Конгрегации сестёр Креста была убита в 2000 году тремя итальянскими подростками в ходе сатанинского ритуала. Девушки намеревались ударить 60-летнюю монахиню 18 раз – по шесть раз каждая, чтобы получилось 666, число, которое, согласно Апокалипсису, является знаком зверя. Однако вскрытие показало, что на самом деле её 19 раз ударили кухонным ножом.

Убийцы Маинетти были осуждены и заключены в тюрьму, но, по данным итальянской полиции, после нескольких лет заключения они все вышли на свободу, взяли новые имена и живут в больших итальянских городах. Одна из них, как сообщается, некоторое время работала няней.

Согласно некоторым воспоминаниям о смерти Маинетти, последними её словами была молитва к Богу о прощении убийц.

Служение сестры было сосредоточено на помощи малолетним преступникам, хотя у девушек, убивших её, не было криминального прошлого. Однако в полицейских отчётах говорится о записных книжках с сатанинскими письменами и клятве на крови, произнесенной за несколько месяцев до убийства. Во время допроса преступницы признались, что их первоначальной целью был приходской священник, но, видя, что он был очень крупным, девушки опасались, что его будет слишком трудно убить.

Папа Франциск объявил смерть Маинетти проявлением odium fidei – ненависти к вере. Это решение будет служить напоминанием о том, что более 200 миллионов христиан ежедневно сталкиваются с религиозными преследованиями, и не только в тех местах, где они представляют меньшинство.

Аллея, где была убита 60-летняя монахиня, теперь является местом паломничества. На стадион Кьявенны для церемонии беатификации был доставлен окровавленный камень, на котором она была убита.

*Рускатолик.рф*

# Рэкалекцыі цвярозасці пройдуць у ліпені ў Браславе

**З 8 па 11 ліпеня ў Браславе пройдуць рэкалекцыі цвярозасці для ўсіх ахвотных.**

Арганізатары запрашаюць узяць у іх удзел усіх, хто так ці інакш сутыкнуўся з праблемай алкагольнай або наркатычнай залежнасці ў сваім жыцці ці ў сям'і.



Падрабязная інфармацыя і запіс па тэлефонах:
**+375 (33) 325 57 64** – Юрый
**+375 (29) 819 50 85** – Ларыса
**+375 (29) 622 97 12** – айцец Андрэй

*Catholic.by*




# На международной медицинской конференции в Витебске анализировали проблемы и последствия пандемии коронавируса

**"Готовы ли мы уже сейчас извлечь уроки пандемии COVID-19?", – вопрос, волнующий многих людей, был озвучен заместителем председателя Комитета по биоэтике Республики Беларусь, кандидатом философских наук, доцентом кафедры общественного здоровья и здравоохранения БелМАПО Валерией Сокольчик во время XVII международной медицинской конференции "Проблемы врачебной этики в современном мире", прошедшей в Витебске 10 июня.**

**Людмила Ермолова**, *врач УЗ ВОКБ, текст;*
**Алексей Гапанович**, *фото*

Конференция, ставшая уже традиционной, вновь собрала врачей, учёных, духовенство для обсуждения актуальной темы. Участники из Беларуси, Ватикана, Польши, России, Украины, Шри-Ланки, Швейцарии представили свой взгляд на проблему пандемии COVID-19 и её последствия – как медицинские, так и духовные.

По словам председателя Витебского областного Совета депутатов Владимира Терентьева, "сегодня, когда достижения новых технологий открывают новые горизонты в науке и технике, необходимо найти морально-этический вектор – это биоэтика, которая вбирает в себя разнообразный опыт медиков, учёных, духовенства, представителей власти для решения насущных проблем".

С учетом эпидемической ситуации в мире многие участники и слушатели присоединились к работе конференции дистанционно. Также осуществлялась видеотрансляция на все районы Витебской области.

Ординарий Витебской епархии епископ Олег Буткевич в своём приветственном слове выразил уважение и благодарность всем медработникам, оказывающим помощь больным в условиях пандемии COVID-19, за их жертвенность и самоотдачу.

Проект, куратором которого является священник Общества Иисуса Клементий Верт, был организован по инициативе Витебской Епархии Римско-Католического Костёла в Республике Беларусь и Витебского облисполкома при участии Витебского ордена "Дружбы народов" государственного медицинского университета, Витебского государственного университета им. П.М.Машерова и Витебской государственной "Знак Почета" академии ветеринарной медицины.

Модератором конференции был заместитель начальника главного управления по здравоохранению Витебского облисполкома Николай Касперович.

От имени сотрудников и ректората ГУО ВГМУ участников конференции приветствовал проректор по лечебной работе доктор медицинских наук профессор Алина Щупакова.

Его преосвященство Апостольский нунций в Республике Беларусь архиепископ Анте Йозич в своей речи сказал: "Пандемия COVID-19 – насущный вопрос врачебной этики в современном мире. Сегодня я осуществляю свой первый визит в Витебск, узнав, что конференция проходит в тесном и плодотворном сотрудничестве между епархией Римско-католической церкви, университетами Витебска, светской властью, дабы засвидетельствовать близость Святейшего отца Франциска как его представитель в Республике Беларусь ... От пандемии страдает семья. В год святого Иосифа Папа Франциск призывает обратиться к энциклике "Amoris letitia" (радость любви). В период пандемии COVID-19 стало очевидным, что семья является точкой отсчёта, ядром человеческого сообщества. Необходим диалог представителей церкви и медицинского сообщества, так как человек – это общность души и тела". В завершение своей речи Апостольский нунций передал всем присутствующим благословение Папы Франциска.

В своем выступлении профессор, зав. кафедрой психиатрии и наркологии ВГМУ Андрей Кирпиченко остановился на особенностях выявления депрессий врачами общей практики, в том числе при заболевании Covid-19.

ГУО БелМАПО представляла доцент Татьяна Матвейчик. В своем докладе "Нравственные аспекты деятельности медицинских сестёр в период пандемии Covid-19: сопереживание, доброта и участие" докладчик обратила внимание на работу медицинских сестёр, которые несут свою круглосуточную вахту у постели больных.

Протоиерей Владимир Быстряков рассказал об отношении руководства РПЦ и верующих к санитарным мерам в деятельности храмов в России во время пандемии Covid-19.

Также прозвучало выступление профессора Александра Окорокова, посвящённое лечению пациентов с сахарным диабетом при наличии у них коронавирусной инфекции.

Влияние пандемии Covid-19 на количество суицидов проанализировал в своем докладе доцент Александр Денисенко.

Профессор Александр Чиркин выступил с докладом "Приверженность принципам здорового образа жизни как профилактика Covid-19".

Итоги конференции подвёл ординарий Витебской епархии Римско-Католической Церкви в Республике Беларусь епископ Олег Буткевич.

По материалам конференции издан сборник тезисов докладов.

# “За голас на выбарах маглі растраляць”.

**Каталіцкі святар Анджэй Ганчар схуднеў на трыццаць кілаграм. Для гэтага яму не спатрэбіліся дыеты, спорт і правільнае харчаванне: ён проста паехаў на місіі ў Афрыку.**

Кс. Анджэй родам з Ліды, некаторы час працаваў у Гродне. Восем месяцаў ён знаходзіўся на місіях у Цэнтральна-Афрыканскай Рэспубліцы (ЦАР). У маі ён прыехаў у Беларусь на невялікі адпачынак, але ў хуткім часе мае планы зноў адправіцца ў Афрыку. Карэспандэнтка Hrodna.life паразмаўляла з ім пра місіі, пра вайну, малярыю і штодзённае жыццё ў гарачай краіне.

## Адважыцца дапамог зняволены

“Ніколі нават падумаць не мог, што я выберу гэты нялёгкі шлях”, – кажа Анджэй Ганчар пра свой выбар працаваць у Афрыцы.

Такоежаданнеўягоз'явілася на трэцім курсе Гродзенскай духоўнай семінарыі. Тады да іх прыязджалі святарымісіянеры, якія праводзілі духоўныя практыкаванні для семінарыстаў. “У той момант я падумаў: “А чаму б не паехаць казаць пра Бога тым, хто пра Яго яшчэ не чуў?” На чацвёртым курсе Анджэй выправіўся на першую місіянерскую практыку ў Казахстан. А пасля шостага курса, будучы ўжо дыяканам, паехаў на місіі ў Афрыку, у Камерун. Там Анджэй некалькі месяцаў служыў у дзіцячым прытулку. Потым вярнуўся ў Гродна, стаў святаром і некаторы час працаваў у турме. Але думкі пра місіі не давалі спакою.

Вырашыцца дапамог зняволены. Ён сядзеў у турме ўжо дваццаць гадоў. За гэты час паверыў у Бога, чытаў Біблію, нават вучыў яе на памяць. Менавіта ён сказаў Анджэю: “Калі маеце жаданне, дзейнічайце! Каб у старасці не шкадавалі, што не адважыліся на гэты крок. А мы будзем вас чакаць”.

У выніку Анджэй паехаў у Цэнтр падрыхтоўкі місіянераў у Варшаву, дзе вучыўся год.

## Першы выклік

У Цэнтральна-Афрыканскай Рэспубліцы дзве дзяржаўныя мовы: французская і санго. Але большасць насельніцтва неадукаваная, нават не ўмее чытаць, таму размаўляе толькі на санго. І гэта быў першы выклік для Анджэя: як служыць людзям, калі не ведаеш іх мову? “Я ў Афрыцы заўважыў, што вельмі прывязаны да сваіх людзей, да сваіх сяброў. Вельмі цяжка бывае адчуваць сябе самім сабой. Чужым будзеш там заўсёды”, – распавядае святар.

Давялося вучыцца. Найлепшыя памочнікі – мясцовыя жыхары і дзеці. “Мова не вельмі цяжкая”, – распавядае Анджэй. За восем месяцаў ён ужо можа размаўляць на ёй, весці святую Імшу і прамаўляць казанне. “Але мне лягчэй самому сказаць, чым зразумець, што яны мне гавораць. Яны ў санго ўмешваюць яшчэ некалькі дыялектаў і сваіх слоў, часам не ўсё зразумела”.

## Ты авакада – табе банан

Анджэй Ганчар працуе ў вёсцы Бабуа. Тэмпература днём там дасягае 40–42 градусаў, а ноччу – недзе каля 18. Вёска знаходзіцца на вышыні 1000 метраў над узроўнем мора, а за 50 кіламетраў ад яе ўжо Камерун. Туды святар часта ездзіць, каб купіць што-небудзь на рынку, бо там значна танней. Напрыклад, у вёсцы шэсць бутэлек вады каштуюць 3000 мясцовых франкаў – каля 5 еўра. А ў Камеруне – толькі 1000 франкаў. “Такі там бізнес, таму што ў ЦАР няма сваёй вытворчасці”, – тлумачыць ён. У вёсцы дагэтуль існуе натуральны абмен. “Ты даеш авакада – табе банан. У большых вёсках ужо ёсць грошы. Як я, белы, прыходжу на рынак, то мне цэны заварочваюць. Але нават тая цана, якую мне называюць, – мізэрная”.

Ксёндз Анджэй жыве ў супольнасці з трыма мясцовымі святарамі ў цагляным доме са сценамі, дзвярамі і дахам. У мясцовых жыхароў дамы нашмат прасцейшыя: дах з саломы, а ў некаторых нават няма дзвярэй. Спачатку ксёндз не мог зразумець, чаму людзі, калі прыходзяць да яго дамоў, пачынаюць пляскаць у ладкі. Аказалася, гэта такая традыцыя: калі прыходзяць да дому, бачаць, што няма дзвярэй, пачынаюць пляскаць або кідаюць камень у дом, каб гаспадар ведаў, што хтосьці прыйшоў. У Анджэя ёсць дзверы, і ён нават павесіў званок, але ім ўсё роўна ніхто не карыстаецца.



Ксёндз Анджэй на Пальмовую нядзелю ў Бабуа

## Працуюць мужчыны, жанчыны і дзеці

Прачынаецца Анджэй а 4.30. А 5.30 адчыняе касцёл, а 5.45 прыходзяць маліцца першыя парафіяне, а 6-й пачынаецца Імша. Пасля святар снедае: звычайна гэта якая-небудзь ляпёшка з чаем або яйка і рыс. Потым ксёндз прымае людзей, бо яны ўжо зранку стаяць каля яго тэрыторыі. Яны прыходзяць прасіць дапамогі: камусьці дапамагчы ежай, камусьці – грашыма. На тэрыторыі дома стаіць школа, куды а 8.00 прыходзіць 38 дзяцей. У школе кожнаму даюць адзенне і штодзённа кормяць. Дзяцей так мала, таму што ў асноўным бацькі прымушаюць іх працаваць з дзяцінства ў полі, і ў школу іх ніхто не аддае.

Дырэктар школы – адзін з мясцовых святароў. Ён займаецца з дзецьмі да 12 гадзіны, а ксёндз Анджэй у гэты час едзе на рынак, каб набыць штонебудзь паесці. Калі застаецца час, наведвае суседнія вёскі, каб прыцягнуць увагу людзей, пазнаёміцца з жыхарамі бліжэй, распавесці ім, што тут ёсць касцёл. Людзі тут вельмі шмат працуюць: у полі, у лесе, каля хаты. Працуюць усе: і мужчыны, і жанчыны, і дзеці. Моладзь і дзеці часта ходзяць з вядром вады на галаве або з кавалкам дрэва, на якім маці зможа прыгатаваць ежу. Яны вырошчваюць садавіну, агародніну, палююць.

“Днём пасля абеду мне абавязкова трэба прылегчы на дзве гадзіны. Таму што з 12-й да 15-й гадзіны вельмі моцна пячэ сонца. У такі час нічога немагчыма рабіць”. Прыкладна а 21.00 святары ідуць спаць. Увечары ў доме цёмна, у пакой трэба заходзіць з ліхтарыкам на лбе. Трэба праверыць пад матрацам, пад падушкай і ў пакоі, ці няма змяі або скарпіёна. Пад дзверы падкладваюць палку або тканіну, каб ніхто не змог прайсці.

⇒



"Першае, што цягне ў Афрыку – гэта свабода. Нягледзячы на тое, што там цяжка, там ёсць свабода. Там я жыву сённяшнім днём і не думаю, што будзе заўтра, паеў – і слава Богу. Людзі там не будуюць планаў"


Так выглядае жылы дом

# Беларускі святар пра працу місіянерам у Афрыцы

⇒

### Не ўсе нават бачылі сваё адлюстраванне

У ЦАР няма электрычнасці. Некаторыя могуць дазволіць сабе сонечныя батарэі. У святароў ёсць генератар: яны яго ўключаюць увечары, каб падзарадзіць тэлефоны і паглядзець навіны па тэлевізары. Тэлевізар або тэлефон сярод мясцовых рэдкасць. "Ехаў я аднойчы з вёскі, у мяне зламалася кола. Сяджу каля дарогі і чакаю: магчыма, хтосьці дапаможа… Каля мяне адразу сабраліся дзеці. Я дастаў свой тэлефон, паказваў ім мульцікі і фатаграфаваў іх. Паказваю фота, а яны здзіўляюцца, таму што ўпершыню ўбачылі сваё адлюстраванне! Я не скажу, што ва ўсіх няма люстэркаў, але асноўную масу гэтых дзяцей не адцягнеш ад тэлефона, калі іх сфатаграфуеш. Яны будуць разглядаць свае твары дзве гадзіны, а потым будуць увесь час успамінаць пра гэта".

### Афрыканская кухня і антысанітарыя

Калі ксёндз быў яшчэ на місіях у Камеруне, ён спрабаваў на смак лапу гарылы, мяса кракадзіла, змей, лічынак, вусеняў. А ў Бабуа ўпершыню пакаштаваў пацукоў. "Ну, як звычайнае мяса", – кажа Анджэй.

"Самае страшнае, што мне патрэбна было есці, – змяю. Далі мне такі кавалачак, ну, я можа, 2,5 л піва выпіў, пакуль з'еў яго. Не для таго, каб напіцца, а каб прапіваць гэты кавалак". У гэтай краіне мяса любой жывёлы пойдзе ў які-небудзь соус. "У нас ёсць сабака, ён прывёў яшчэ восем сабак. Думаю: чаго людзі іх так разбіраюць? Потым зразумеў".

Кухня ў ЦАР вельмі вострая і тлустая, бо людзі маюць патрэбу ў тлушчы. Усе ў вёсцы ядуць рукамі, таму вельмі шмат антысанітарыі і хваробаў. Тут часта хварэюць на брушны тыф, які потым перарастае ў малярыю. "Я таксама хварэў. Падчапіў брушны тыф: пяць дзён праляжаў, нічога не мог есці, і адразу схуднеў на сем кілаграмаў. А пасля яго адразу малярыя – гэта яшчэ на пяць дзён".

Калі Анджэй паехаў у Афрыку, ён важыў 105 кілаграмаў, цяпер ён важыць 74. "І тое, гэта я ўжо паднабраў", – кажа святар. Старэйшыя місіянеры згадвалі: усю вопратку, якую выпралі, трэба высушыць і папрасаваць. "Я не моцна прыслухаўся. Быў такі момант: панасіў шорты літаральна дзень. Гляджу, пад шортамі на назе нейкі нарыў. Апрацаваў рукі, націскаю, а там чарвяк вылез жывы".

Калі Анджэй паказаў гэтага чарвяка дасведчанаму святару, той засмяяўся і сказаў, што ён яшчэ маленькага выгадаваў. "Паказвае свае ногі, а яны спісаныя пісакамі, што такі чарвяк хадзіў пад скурай". Пасля гэтага Анджэй заўсёды прасуе адзенне. Прас у іх стары, яшчэ на вуглях.

– А мясцовыя жыхары таксама так робяць?

– А не, дзе там.

– А як яны жывуць, калі да іх такі чарвяк залезе?

– Яны проста на гэта не звяртаюць увагі. Яны п'юць ваду, ад якой мы адразу захварэлі б на брушны тыф. А яны п'юць, у іх па-іншаму арганізм наладжаны.

### "Ён таксама такі быў, але адмыўся!"

Ксёндз Анджэй прывёз у Афрыку 40 кг гаспадарчага мыла. Ён дзяліў кожны кавалак на шэсць маленькіх і раздаваў дзецям. "І яны ж такія шчаслівыя былі. Каб сёння нашаму дзіцяці даць кавалачак мыла, ці было б яно шчаслівае?"Яны ж радуюцца, бо лічаць, што калі будуць мыцца мылам ад белага місіянера, будуць такія ж чыстыя і белыя, як ён. "Яны падыходзяць, разглядаюць мае рукі, валасы і бачаць, што маю радзімкі. І кажуць: паглядзі, ён таксама такога колеру быў, але адмыўся!" Далі дзецям аднойчы шампуні. Яны пачалі шараваць галаву, а ў іх валасы, як мачалкі, усе ў пене – і яны шчаслівыя ад гэтага. "Калісьці прывезлі ім некалькі цюбікаў дзіцячай зубной пасты. Я пайшоў раздаваць. Пакуль апошняму даў, першы ўжо з'еў усю пасту, таму што яна смачная".

Дзеці там любяць гуляць у футбол, але не заўсёды ў іх ёсць мяч. Яны часам самі яго робяць, абмотваюць нешта ў шар. "Часам едзеш у вёску а шостай гадзіне раніцы, яны ўжо ў футбол гуляюць. Яны нават некалькі разоў арганізоўвалі чэмпіянат у гонар майго імя. Проста разумелі, што я арганізую ім падарунак".

Усе падпісваюцца зоркамі футбола, і ніхто не павінен паўтарацца. "Два Месі ўжо не можа быць", – кажа святар. Дзеці нават слухаюць футбол па радыё. "Калісьці я арганізаваў такі чэмпіянат і кажу: у мяне у Instagram ёсць і Рanaльда, і Месі, і Левандоўскі. Напішыце плакаты, можа, яны будуць глядзець. Напісалі плакаты: "Месі, прышлі грошай, каб купіць веласіпед".

### Як у Афрыцы ставяцца да смерці

"Аднойчы я прыйшоў на пахаванне, стаў у канцы касцёла і маліўся. Там стаяла труна з жанчынай, якую я добра ведаў. Падыходзіць да мяне чалавек і кажа: "Чаму Вы стаіце на каленях і сумуеце? Уставайце. Будзем весяліцца і танцаваць!" І тры дні весяліцца людзі і танчаць праз тое, што чалавек адыходзіць у вечнасць".

Яны кажуць, што ў Біблії напісаныя словы: хто будзе верны Богу да канца жыцця, таму Бог прыгатуе вячэру на небе. На гэтай вячэры будзе і малако, і хлеб, і мёд, і віно. "Чаму мы будзем сёння плакаць, што яна памерла, калі яна сёння будзе смачна есці ў небе?" Але, з іншага боку, у людзей вельмі шмат забабонаў і сваіх традыцый. "Не так даўно памёр малады чалавек – 21 год. Ніхто з іх не можа паверыць у тое, што малады чалавек можа паміраць. Яны вырашылі, што хтосьці на яго кінуў праклён". Пасля пахавання яго маці распавяла ўсім, што перад смерцю ён прамаўляў імя. Яго сябры зразумелі, што гэта імя таго чалавека, які кінуў праклён. "Што яны зрабілі? Пайшлі па вёсцы, знайшлі найстарэйшага дзядулю, жывым кінулі ў яму і закапалі". Калі біскуп прыехаў і сказаў ім, што так нельга рабіць, што гэта грэх, людзі адказалі: "Ты ж белы, ты не зразумееш нашы традыцыі і культуру".

### Людзі жывуць 130 гадоў і не маюць пашпартоў

Павянчаць кагосьці ў каталіцкай царкве вельмі складана, таму што трэба атрымаць дазвол ад бацькоў, а гэта не так проста, як у нас. Хлопец павінен пабудаваць каля дома бацькоў нявесты свой дом, год жыць у ім і працаваць. І толькі тады ён можа ўзяць іх дачку замуж і жыць побач з яе бацькамі. Таму ў вёсцы амаль усе сваякі. У сем'ях у ЦАР вельмі шмат дзяцей. "Пытаюся ў адной жанчыны: гэта вашы дзеці? Яна пачасала галаву і няўпэўнена кажа: "Ну так, мае, у мяне іх 14". Некаторыя нават не памятаюць імёнаў сваіх дзяцей або наогул называюць іх адзін, два, тры, чатыры, пяць…

У ЦАР у людзей няма пашпартоў. Ёсць толькі дакумент у тых, хто хрысціўся ў каталіцкай царкве. Там запісваецца ўзрост. "Але не ведаюць, колькі ім гадоў. Я хаваў дзядулю і быў такі дыялог:

– Колькі ён пражыў?

– Ну, дзесьці 128 гадоў…

– Нябдага вам тут жывецца".

Смяротнасць у ЦАР вялікая. Дзеці нараджаюцца ў полі, у лесе, там дзе знаходзіцца маці. Яна застаецца верная дзіцяці, пакуль яно не стане на ногі. Потым яно само павінна шукаць, што паесці. "Таму там шмат дзяцей, якія жабруюць. А калі ім што-небудзь дасі, на наступны дзень прыйдзе яшчэ сорак чалавек", – кажа ксёндз Анджэй.



### Вайна ў ЦАР

27 снежня ў ЦАР былі выбары. У гэты час на тэрыторыі ўжо былі паўстанцы, якія хацелі захапіць уладу. У час выбарчай кампаніі яны казалі: "Калі хто-небудзь будзе галасаваць, мы адразу ўсіх расстраляем". Лічыцца, што імі кіруе былы прэзідэнт ЦАР Франсуа Базізе, якога зрынулі ў 2013 годзе. У выніку Прэзідэнта выбралі толькі паводле падлікаў галасоў у сталіцы. У ёй жыве каля мільёна чалавек, усяго ж насельніцтва ЦАР – прыкладна шэсць мільёнаў. Паўстанцы хадзілі па вёсках, шукалі паліцэйскіх і забівалі іх. Людзі ўцякалі, хаваліся і жылі ў лесе, узгадвае Анджэй.

"Нават у мяне хаваліся тры паліцэйскія. У канцы яны папрасілі, каб я іх перавёз у іншы горад. Я на свой страх і рызыку праз бар'еры з паўстанцамі іх перавёз. Зразумела, што яны былі без формы, без дакументаў і зброі. Ніхто нас не правяраў, таму што машына ў нас з крыжам і там напісана "mission catholique". "Было вельмі страшна. Быў такі момант, калі прыбеглі да мяне хлопчыкі і казалі: усё, таты больш няма". Іх бацька быў паліцэйскім, адразу некалькі паўстанцаў забеглі ў дом і расстралялі яго. "Казаць гэтым людзям пра міласэрнасць і прабачэнне вельмі цяжка", – заўважае ксёндз Анджэй.

Пасля прыехалі расіяне і французы. Яны ачапілі сталіцу, каб паўстанцы не патрапілі туды. Паўстанцы ж заблакавалі дастаўку прадукцыі ў горад: проста расстрэльвалі ўсіх, хто ехаў у сталіцу, а прадукцыю забіралі сабе. Так працягвалася амаль тры месяцы, пакуль расіяне і французы не пачалі суправаджаць фуры і дапамагаць людзям вярнуцца ў вёскі.

З розных краін людзі прыязджаюць у ЦАР і вывозяць золата, алмазы, бо гэта краіна вельмі багатая на карысныя выкапні. "Гэта ўсё палітыка. Усім цікава, каб людзі ў Афрыцы былі неразвітыя. Таму што калі людзей пераканаць, што гэта іх тэрыторыя, іх дом і іх карысныя выкапні, то там бы быў другі Дубай".

*Таццяна Сідлярэвіч,*
*hrodna.life*




Дзеці рознага ўзросту ў школе ў Бабуа вучацца разам

# Родителям о личных границах ребёнка

**Наступили летние каникулы и пора отпусков, а это значит, что дети и их родители, бабушки и дедушки будут больше проводить времени вместе.**

**Марина Ткач**, *психолог*

И если для взрослых такая перспектива на лето не несёт в себе сложностей, а наоборот, им кажется, что таким образом они восполнят дефицит родительского внимания и родительских обязанностей, то для многих детей нахождение со взрослыми 24/7 становится своеобразным опытом нарушения их личного пространства, их личных границ. Именно о личных границах ребёнка и их нарушении взрослыми мы сегодня и поговорим.

Думаю, многие взрослые хоть раз в жизни обращались к своему ребёнку фразами "Иди поцелуй бабушку", "Посиди у дедушки на коленях", "Как ты закончил учебный год, с какими оценками". При этом мы ждём, что ребёнок ответит поведенческой реакцией, т.е. сделает то, чего мы от него хотим в данный момент. Фразы, приведенные мной в качестве примера, не кажутся какими-то сверхъестественными, но в случае если они навязываются ребёнку против его желания, то это уже не про общение, не про проявление интереса к жизни ребёнка и совместное времяпрепровождение, а о нарушении его личных границ.

Нарушение границ личности происходит всякий раз, когда человек начинает распоряжаться чужим ресурсом так, будто он имеет на это право. В качестве ресурса могут выступать тело человека, вещи, территория, здоровье, время, убеждения и ценности.

Личные границы – своеобразный барьер, который человек выстраивает между своим внутренним миром и окружающей его действительностью. Для взрослого человека личные границы – маркер его психологического здоровья и благополучия, для ребёнка – показатель здоровых семейных отношений и грамотного воспитания.

Здоровые границы – это фундамент крепких отношений и главное условие формирования самостоятельной и цельной личности.

Личные границы призваны защищать "Я" человека: его осознание себя как отдельной личности, его право на свои желания, на своё мнение, его право на физическую неприкосновенность и эмоциональную автономию.

Личные границы нужны как взрослым, так и детям. Последним они дают ощущение спокойствия и уверенности, помогают взять ответственность за собственные поступки и жизнь и в определённый период личностного развития отделиться от родителей.

Как видим, задача у личностных границ важная и определяет развитие личности.

К сожалению, в нашей культуре понятие границ детей размыто и вмешательство в чужое пространство чаще всего считается нормой. Предполагается, что ребёнок должен улыбаться, подставлять щёки для поцелуя любимых родственников, декламировать стихи всякий раз, когда этого захотят родители, а вот хочет ли этого сам ребёнок, порой мало кого интересует.

Что происходит, если ситуация нарушения личных границ ребёнка носит повторяющийся характер? Последствий несколько и все они чаще всего негативные, а именно:

- ребёнок убеждается, что его мнение и желания не имеют значения для окружающих;
- он привыкает ставить чужую волю выше своей;
- ближайшее окружение (семья, родственники) перестают быть зоной безопасности;
- ребёнок не умеет и не учится говорить "нет" и отстаивать свое пространство.

К сожалению, такие последствия нарушения границ делают ребёнка уязвимым к различного рода насилию. Поэтому очень важно учить детей в семье отстаивать свои границы. Ребёнок должен уметь говорить фразы:

- "Закройте дверь, я хочу переодеться, почитать, отдохнуть и т.д.";
- "Пожалуйста, не трогайте мои вещи";
- "Мне это не нравится. Не делайте так";
- "Не нужно заходить со мной в туалет".

Как родители или взрослые могут поддержать ребёнка в овладении навыком отстаивания личных границ:

1 Показывайте своим примером, как уважать чужие границы и правильно отстаивать свои. Родители для детей – это пример и образец для подражания, именно через вас ребёнок усваивает правила выстраивания отношений с другими людьми и правила поведения в обществе.



2 Спрашивайте разрешения, когда хотите поцеловать или обнять ребёнка. Так вы поможете осознать своему ребёнку, что его тело принадлежит ему.

3 Не распоряжайтесь самовольно вещами ребёнка: не выбрасывайте, не отдавайте кому-либо, не меняйте порядка на полках в одиночку. Лучше все эти моменты оговорить с ребёнком и сделать совместно с ним.

4 Если у ребёнка есть своя комната или у ваших детей есть одна комната на двоих, не забывайте стучаться в дверь перед тем как войти. Спустя время вы сами почувствуете, как здорово, если ребёнок стучится в вашу комнату перед тем как в неё ворваться.

5 Уважайте свободное время ребёнка. Предлагайте, но не навязывайте проводить досуг так, как считаете правильным вы сами.

6 Договаривайтесь по возможности заранее об участии ребёнка в семейных делах – уборке, поездке на дачу или в деревню.

7 Если ребёнок робеет оказать сопротивление взрослому, обязательно становитесь на сторону ребёнка и отстаивайте его позицию и интересы.

8 Учитывая возраст своего ребёнка, говорите о том, что все люди разные и, к сожалению, не все они бывают хорошими.

Научив ребёнка обозначать свои границы и уважать личное пространство другого человека, вы как родители поможете ему в будущем лучше понимать себя и своих близких, ему будет легче адаптироваться в обществе, принять особенности другого человека, иные взгляды. Кроме того, ребёнок, осознающий свои границы и их нерушимость, в большей степени застрахован от влияния агрессивно настроенных людей.

Желаю успехов!

# Францішканін з Беларусі брат Віктар Мялешка OFMConv стаў святаром

**29 мая ў санктуарыі Святога Антонія Падуанскага ў Лодзі-Лагеўніках (Польшча) брат Віктар Марыя Мялешка OFMConv, беларус, разам з іншымі братамі францішканскай Правінцыі Маці Божай Беззаганнай прыняў сакрамант пасвячэння ў ступені прэзбітарату.**

Як інфармуе catholic.by, святарскае і дыяканскае пасвячэнні братам удзяліў дапаможны біскуп Лодзкай архідыяцэзіі біскуп Ірыней Пэнкальскі. Правінцыя францішканскага ордэна папоўнілася трыма новымі святарамі і чатырма дыяканамі.

Айцец Віктар Марыя Мялешка OFMConv нарадзіўся ў Гродне, паходзіць з францішканскай парафіі Маці Божай Анёльскай. Пасля заканчэння сярэдняй школы Віктар распачаў фармацыю ў ордэне Братоў Меншых Канвентуальных, дзе пасля дзевяці гадоў фармацыі прыняў святарскае пасвячэнне. Дыяканскую практыку праходзіў у францішканскай парафіі ў вёсцы Удзела (Віцебская дыяцэзія).

Айцец Віктар Мялешка OFMConv неўзабаве вернецца ў Беларусь, каб на радзіме служыць Богу і людзям у духу харызмы святога Францішка Асізскага.

Сабраты новапрэзбітара заклікаюць ахінуць малітвай святарскае і манаскае жыццё маладога францішканіна.




Айцец Віктар Марыя Мялешка OFMConv другі злева

# Ян Чупрынскі з Барысава – новапрэзбітар у супольнасці айцоў-марыянаў

5 чэрвеня, у пятую гадавіну канканізацыі св. Станіслава Папчынскага ў касцёле Маці Божай Міласэрнасці на варшаўскіх Стэгнах, біскуп Міхал Яноха ўдзяліў траім дыяканам прэзбітарскае пасвячэнне. Пасля васьмі гадоў фармацыі ў супольнасці марыянаў Ян Чупрынскі з Барысава (Беларусь), Павел Федаровіч-Яцкоўскі з Парыжа (Францыя) і Барталамей Пшыходзкі з Гуры Кальварыі (Польшча) сталі святарамі.

Вечныя шлюбы ў манаскай супольнасці Ян Чупрынскі склаў 5 кастрычніка 2019 года, 9 мая 2020 года прыняў дыяканскае пасвячэнне.

Пасля кароткага адпачынку новапрэзбітары амаль два месяцы будуць дапамагаць у санктуарыі Маці Божай Ліхенскай. Пасля паедуць на новыя месцы для далейшага служэння згодна з прызначэннем кіраўніцтва супольнасці.

*Марына Сінкевіч, паводле матэрыялаў marianie.pl*



Айцец Ян Чупрынскі MIC крайні злева

# “Будаваць новую Беларусь на хрысціянскіх каштоўнасцях”: арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч на фэсце ў Глыбокім



**Глыбоцкі касцёл асвечаны пад тытулам Святой Тройцы, таму ў гэтым годзе свята ў парафіі прыпала на 30 мая.**

■ **Зміцер Лупач**, *тэкст;* **Марына Сінкевіч,** *фота;* **Леанід Юрык,** *відэа*

Пачалося яно з урачыстай сустрэчы арцыбіскупа Тадэвуша Кандрусевіча, які быў запрошаны ў якасці ганаровага госця. Іерарха сустракалі на прыкасцельнай плошчы пробашч ксёндз Мікалай Ціхановіч, міністранты і вернікі. Пасля прывітальных словаў арцыбіскупу ўручылі хлеб-соль, і ўсе накіраваліся ў храм.

*Так віталі арцыбіскупа на пенсіі Тадэвуша Кандрусевіча ў Глыбокім. Паглядзець відэа можна па спасылцы:*



Святая Імша распачалася а 15-й гадзіне, яе цэлебраваў арцыбіскуп на пенсіі Тадэвуш Кандрусевіч. Напачатку іерарх узгадаў, што прыязджаў да гэтага ў Глыбокае вельмі даўно, калі яшчэ не быў біскупам. Ён павіншаваў пробашча ксяндза Мікалая з дваццацігадовым юбілеем святарства, які той нядаўна адзначыў. Сам жа арцыбіскуп 31 мая адзначыў саракагадовы юбілей святарскага служэння.

“Трэба служыць, колькі Бог паклікаў і дзе Бог паклікаў”, – адзначыў ён з гэтай нагоды. Іерарх падзякаваў вернікам за малітву ў сваёй інтэнцыі, калі ён не мог вярнуцца на радзіму: “Гэта быў знак салідарнасці вернікаў са сваім біскупам, гэта была для мяне вялікая падтрымка. Хай Бог адудзячыць вам за вашую малітву і вашую памяць”.

У гаміліі арцыбіскуп засяродзіў увагу на сутнасць Святой Тройцы. Ён падкрэсліў, што мы не можам да канца спазнаць Святую Тройцу, але трэба глядзець на гэта праз прызму веры.

“Бог, таямніцу Якога мы маглі б спазнаць, ужо не з’яўляўся б богам, – адзначыў арцыбіскуп Тадэвуш. – Але нам трэба імкнуцца да спазнання Бога, хоць мы і не можам да канца Яго спазнаць”.

*Відэа з казаннем арцыбіскупа на пенсіі Тадэвуша Кандрусевіча можна паглядзець па спасылцы:*



Далей ён засяродзіўся на тым, якога Бога мы вызнаём. З гэтага можна зрабіць тры высновы.

Мы павінны верыць у аднаго Бога, адзінага ў Тройцы. Бог не дзейнічае ў адзіноце. Бог – гэта тры асобы. Мы таксама не жывём ізалявана, мы патрэбныя адно аднаму. Таму чалавек не можа пазбягаць праблем грамадства, жыць паводле прынцыпу “мая хата з краю”. “Я з’яўляюся грамадзянінам гэтай краіны, і я адказны за яе сённяшні дзень і за будучыню”, – падкрэсліў іерарх.

Трыццаць гадоў таму мы атрымалі свабоду веравызнання, а жывём так, як бы Бога няма. Матэрыяльныя каштоўнасці, задавальненні сталі для нас вышэйшымі за Бога, яны наш бог.

Бог адзіны і дасканалы ў Тройцы. Нават для самай дасканалай любові паміж людзьмі патрэбныя тры асобы, бо любоў паміж жанчынай і мужчынам нараджае дзіця.

Таму мы не павінны ізалявацца ад астатніх людзей і жыць як эгацэнтрысты: толькі я адзін існую і больш ніхто. Так не бывае, і так не павінна быць. Усе праблемы ў сям’і, на працы, у грамадстве, у дзяржаве павінны вырашацца шляхам дыялогу. Але без Бога іх не вырашыш.

“Дык адкажам сабе, ці жыве Бог у нашым сэрцы? Ці не прыйшоў час адкрыць свае сэрцы Богу ў Тройцы адзінаму? – такія рытарычныя пытанні задаў іерарх напрыканцы гаміліі. – Каб мы будавалі новую Беларусь на хрысціянскіх каштоўнасцях”.

Пасля заканчэння святой Імшы глыбоцкія вернікі павіншавалі арцыбіскупа Тадэвуша з саракагадовым юбілеем святарства. Той у сваю чаргу падзякаваў усім за прысутнасць і памяць пра яго, узгадаў, як у 1990 годзе, будучы маладым біскупам, адпраўляў у Глыбокае ксяндза Кірыла Клімовіча, а потым некалькі гадоў разам з ім нёс біскупскае служэнне ў Расіі.

Пасля набажэнства вернікі памаліліся Літаніяй да Святой Тройцы, а потым прайшлі Эўхарыстычнай працэсіяй.





Каталіцкі ВЕСНІК №6 (123) чэрвень 2021 г.

# Пра веру, патрыятызм і гасціннасць у Грузіі. Інтэрв’ю з беларускай сястрой-місіянеркай

**Сярод беларускіх святароў і манахінь ёсць шмат місіянераў. Салезіянка сястра Верóніка Огар з Кангрэгацыі Дачок Марыі Успамогі, якая амаль тры гады працуе ў Грузіі, падзялілася з “Каталіцкім Веснікам” асаблівасцямі свайго служэння ў Закаўказзі.**

**– Хвала Хрысту! Паважаная сястра, раскажыце крыху пра сябе.**

– Хвала навекі! Я нарадзілася на Лідчыне ў вёсцы Бердаўка. У маім дзяцінстве ў нас не было касцёла. Таму ў нядзелю на Імшу мы ездзілі або ў Ліду, або ў Ліпнішкі. Калі я была ў трэцім класе, у нашай вёсцы адкрыўся касцёл, пробашчам якога стаў салезіянін кс. Станіслаў Лугоўскі. У той жа год ён падрыхтаваў нас да Першай Камуніі. Вёска з прыходам гэтага святара, можна сказаць, ажыла. Ён збіраў дзяцей, моладзь, дарослых, да кожнага маючы свой падыход. Не баяўся адважных прапаноў, запрашаў нас на малітву, на працу і адпачынак. Мне вельмі падабалася жыццё ў Касцёле. Мама прывіла нам жаданне штодзённай святой Імшы.

Нас у сям'і было пяцёра: яшчэ тры мае браты і сястра. І дзе толькі была магчымасць патрапіць на “Канікулы з Богам”, пайсці ў пілігрымку, паехаць на сустрэчу моладзі або рэкалекцыі, я ўсюды ахвотна ехала. Спачатку як удзельніца, пасля, ў больш сталым узросце, як аніматар.

**– Якім быў Ваш шлях да манаства?**

– Летам, пасля Першай Камуніі, маючы дзевяць гадоў, я патрапіла ў пілігрымку з Варшавы ў Чэнстахову. І сястра, якая арганізавала нашу групу, мяне вельмі ўразіла. Яна моцна клапацілася пра кожную з нас. І тады мне захацелася быць як яна…

Закончыўшы вучобу, я звярнулася да сясцёр-салезіянак з просьбай прыняць мяне ў Кангрэгацыю. На духоўнай фармацыі была некаторы час у Беларусі, пасля ў Італіі, на зямлі нашых заснавальнікаў – св. Яна Боска і св. Марыі Дамінікі Маддзарэлла. Пакліканне лічу вялікім дарам ад Бога, які я адкрывала паступова. Але найбольш мне дапамог прыклад шчаслівых святароў і сясцёр, а таксама чытанне біяграфій святых.

**– А як Вы патрапілі на місіі?**

– У 2014 годзе я склала першыя манаскія абяцанні і два гады працавала ў Бараўлянах, пасля ў Смаргоні. А ў 2018 годзе наша настаяцельніца накіравала мяне ў Грузію. І вось ужо амаль тры гады жыву і працую ў Тбілісі.

**– У чым асаблівасці служэння ў Грузіі?**

– Грузія ў пераважнай большасці праваслаўная краіна. Католікаў тут толькі 1% ад усяго насельніцтва. Гэта з аднаго боку складанасць, а з другога, дар – быць сямейным Касцёлам, дзе амаль усе між сабою знаёмыя.

Ва ўсёй краіне ёсць шаснаццаць парафій, дзе рэгулярна адпраўляецца святая Імша, і яшчэ некалькі капліц, куды даязджаюць з літургічнай паслугай. Некаторыя святары абслугоўваюць па некалькі парафій.

Апроч нас, католікаў лацінскага абраду, ёсць яшчэ католікі асіра-халдэйцы і армяне. Гэта яшчэ адна асаблівасць Касцёла ў Грузіі. Кожны абрад сам па сабе самастойны, але ёсць розныя моманты і святы, якія мы перажываем разам.

**– Цікава, якая сітуацыя з мясцовымі пакліканнямі?**

– Мясцовых святароў толькі пяцёра. Іншыя ж місіянеры з Італіі, Польшчы, Беларусі. Ёсць таксама дзесяць манаскіх мужчынскіх і жаночых супольнасцей. Гэта місіянеры з Індыі, Польшчы, Буркіна-Фасо, Італіі, Беларусі, Францыі, Конга, Літвы, Перу.

**– Колькі сясцёр у Вашай салезіянскай супольнасці?**

– Нас тры чалавекі. Дзве сястры з Польшчы і я, з Беларусі. Ёсць яшчэ адна наша супольнасць у паўднёвай частцы Грузіі. Там нашы сёстры-салезіянкі моляцца ў армянскім абрадзе. Дарэчы, ёсць таксама чатыры мясцовыя манахіні армянскага паходжання.

**– Распавядзіце пра Вашы асноўныя заняткі і абавязкі ў Грузіі?**

– У Тбілісі мы маем невялікі выхаваўчы цэнтр для дзяцей. Таксама ўжо другі год я працую пры Апостальскай адміністрацыі для католікаў лацінскага абраду на Каўказе. Адказваю за “Моладзевы пастаральны цэнтр”. Даверaныя абавязкі нясуць за сабой не толькі адказнасць, але і магчымасць бліжэй быць да людзей, асабліва да моладзі. Лепш пазнаць іх быт, мары, клопаты, быць побач у патрэбах і радасцях, суправаджаць на шляху хрысціянскага ўзрастання.

Зараз па прычыне пандэміі наш выхаваўчы цэнтр не можа працаваць, як раней. Аднак мы шукаем розныя спосабы, як дапамагчы людзям. І апроч усіх цяжкасцяў і мінусаў пандэміі, знайшліся і плюсы. Магчыма, наша дзейнасць у пэўным сэнсе страціла сваю маштабнасць, але адкрыўся шлях для больш індывідуальнага, блізкага падыходу. Таксама мы пачалі даязджаць у некаторыя вёскі і дапамагаць святарам, збіраючы дзяцей і моладзь у араторый і на фармацыйныя сустрэчы.

**– Якая яна, каталіцкая моладзь Грузіі?**

– Працуючы з моладдзю і лічачы сябе маладой таксама, заўважаю, што грузінская моладзь, так як і моладзь усяго свету, мае жаданне глыбей пазнаць і свядома даручыць Богу сваё жыццё. У грузінскай моладзі адчуваецца вельмі моцнае пачуццё патрыятызму. Маладыя людзі хочуць ганарыцца тым, што яны католікі, хочуць зрабіць нешта важнае для свайго Касцёла, для сваёй краіны. Мы ж са свайго боку стараемся суправаджаць, дапамагаць. Напрыклад, адна з ініцыятыў нашага пастаральнага цэнтра – школа лідараў, якую праводзім у супрацоўніцтве з кс. Паўлам Рудзьманам і яго камандай.

Такім чынам прадстаўнікі моладзі розных парафій атрымліваюць фармацыю і веды для таго, каб дапамагаць сваім святарам у моладзевай пастаральнай дзейнасці. Так, у прыватнасці, адна дзяўчына захацела арганізаваць араторый для дзетак. Пачала з дваіх дзяцей тры месяцы таму, а зараз іх ужо пятнаццаць чалавек. А адзін юнак, разумеючы, што ў сілу сваіх абавязкаў пакуль не можа рэгулярна ахвяраваць свой час для служэння пры парафіі, вырашыў падрыхтаваць інфармацыю пра касцёлы Грузіі і змясціць у Вікіпедыі.



**– У адной грузінскай прыказцы гаворыцца: “Кожны госць – падарунак ад Бога”. Ці адчулі Вы гэта?**

– Гэта сапраўды так. З самага пачатку, як прыехала сюды, я з радасцю ўдзельнічаю ў парафіяльных святах. Уявіце, на іх прыязджаюць вернікі з усіх парафій, каб разам сустрэцца, памаліцца, адсвяткаваць, падзяліцца, падтрымаць адно аднаго.

Спачатку ўсе сустракаюцца вакол эўхарыстычнага стала. А пасля не абыйсціся без традыцыйных спеваў і танцаў, і, канешне ж, смачнага абеду. Грузінская гасціннасць вельмі ўражвае.

**– А што з грузінскай мовай?**

– Мне вельмі моцна падабаецца служэнне ў Грузіі сярод цудоўных людзей. Аднак адной невялікай складанасцю з'яўляецца мова. Таму вучуся, стараюся. А таксама малюся аб новых пакліканнях з гэтай зямлі да манаскага і святарскага служэння, каб Евангелле прапаведавалася тут на прыгожай чыстай грузінскай мове.

*Гутарыла*
***Ірына Радзевіч***

# Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае “Каталіцкі Веснік” сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

Свае ахвяраванні нам даслалі: **Вікенцій Навіцкі** *(Браслаў)*, **вернікі з Дуброўна**, **Марыя Юрык** *(Глыбокае)*, **Соф’я Машара** *(Шаркаўшчына)*, **Канстанцін Кузьміч** *(Варапаева)*, **Марыя Рачыцкая** *(Якубава)*, **Марыя Новік** *(Зорка)*, **Пасынак Л.Э.** *(Сарокі)*, **Соф’я Іжык** *(Ашмяны)*, **Тэрэса Рулевіч** *(Браслаў)*, **Яніна Бруйко** *(Пашкі)*, **Даната Рудак** *(Захарнічы)*, **Баляслава Немыцкая** *(Паставы)*, **Валянціна Сурвіла** *(Шэметава)*, **Казіміра Сіндрэвіч** *(Віцебск)*, **Зенона Альксні́н** *(Браслаў)*, **Ірэна Крывель** *(Вайнюнцы)*, **Камілія Іваноўская** *(Ярэва)*, **Яніна Парфяновіч** *(Пялікі)*, **Людміла Лоўкіс** *(Навасёлкі-2)*, **Ядвіга Мядзвецкая** *(Сталіца)*, **Вільгельм Драгун** *(Варапаева)*, **Вашкель Р.М.** *(Дворнае Сяло)*, **Тэрэза Варановіч** *(Докшыцы)*, **Соф’я Мацкевіч** *(Ракуці)*, **Галіна Русецкая** *(Нясвіж)*, **Аліна Бука** *(Мосар)*, **Алена Сасімовіч** *(Глыбокае)*, **Яніна Маркоўская** *(Мінск)*, **Падалевіч Г.А.** *(Бігосава)*, **Аліцыя Трафімовіч** *(Паставы)*, **Ванда Дзенісенка** *(Жыткавічы)*, **Ганна Швед** *(Людвінова)*, **Марыя Вярцінская** *(Вярцінскія)*, **Галіна Галуза** *(Падсвілле)*, **Яніна Шэнда** *(Зорка)*, **Эма Сцяпанава** *(Сталіца)*, **Ядвіга Вярцінская** *(Жабінка)*, **Людміла Шынкевіч** *(Гатаўшчына)*, **Ірына Грыцкевіч** *(Лясны)*, **Віктар Муляронак** *(Глыбокае)*, **Эмілія Бугаева** *(Лынтупы)*, **Эма Козел** *(Докшыцы)*, **Вільгельм Драгун** *(Варапаева)*, **Соф’я Мацкевіч** *(Ракуці)*, **Ніна Марунько** *(Новалукомль)*, **Тэрэза Смулько** *(Зорка)*, **Зінаіда Жук** *(Падсвілле)*, **Рэгіна Лазучэнка** *(Браслаў)*, **Тэрэса Павучонак** *(Сынадворцы)*, **Тэрэса Насута** *(Старыя Васілішкі)*, **Ванда Кірылава** *(Ёды)*, **Ганна Жылевіч** *(Каменчане)*, **Валянціна Хадалёнак** *(Сталіца)*, **Юзэфа Малей** *(Сітцы)*, **Лубінская Я.Ф.** *(Шэметава)*, **Зоя Воранава** *(Шуміліна)*, **Галіна Цігіна** *(Камарова)*, **Ядвіга Трайко** *(Карасіна)*, **Станіслава Пятліцкая** *(Баранавічы)*, **Эмілія Стакла** *(Юльянова)*, **Эма Роўда** *(Новалукомль)*.

Калі Вы хочаце дапамагчы “Каталіцкаму Весніку” сваімі ахвяраваннямі, дасылайце, калі ласка, іх праз Белпошту на ніжэйпададзены адрас:

***Місевіч Віктар Мар’янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793 г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

***Рэдакцыя***
***“Каталіцкага Весніка”***

# Найсвяцейшае Сэрца Езуса

## Правер свае веды

**Чэрвень у Касцёле прысвечаны Найсвяцейшаму Сэрцу Езуса – сімвалам і жывым доказам Любові нашага Збаўцы да чалавека. Гэта час, калі асаблівым чынам Касцёл ушаноўвае Таямніцу жывога Бога, Які так палюбіў чалавецтва, што спаслаў свайго Сына на адкупленне свету.**

Супольнасць вернікаў ушаноўвае названую падзею праз культ Сэрца Езуса, прыцягваючы ўвагу да літаніі, якая ў трыццаці трох выразах паказвае істоту Божай Любові, у набажэнствах першай пятніцы месяца – абяцаннях, дадзеных самім Хрыстом для тых, хто ўшаноўвае таямніцу Божай Любові, гэта значыць, іншыя знакі пабожнасці да Сэрца Збаўцы.

Дарэчы, што мы ведаем пра культ Сэрца Езуса і якія Яго знакі маем перад сабою? Супольнасць сэрцанаў прапануе чытачам невялікі тэст, дзякуючы катораму можна праверыць або пашырыць свае веды.

***Паняцце "сэрца" ў Святым Пісанні згадваецца 977 разоў. Сэрца з'яўляецца цэнтрам маральнага жыцця, таксама ў сэрцы чалавек робіць выбар паміж дабром і злом. Бог дае абяцанне таго, што дасць чалавеку "новае сэрца" (Эз 36, 26). Новы Запавет адносіць гэтае абяцанне да Асобы Езуса Хрыста, Які аб'яўляе Дар Сэрца...***



**1** У каго з евангелістаў мы можам знайсці фрагмент, які непасрэдна адносіцца да Сэрца Езуса ў кантэксце Яго паслання?
**А.** Св. Марк
**Б.** Св. Ян
**В.** Св. Мацвей

***Сэрца ёсць сімвалам любові. Культ Сэрца Езуса бярэ пачатак з Евангелічнага запісу смерці Езуса на крыжы і Яго прабітага Боку. А гэта таксама і момант нараджэння Касцёла. З прабітага Боку выплыла Кроў і Вада....***



**2** Айцы Касцёла бачаць у Крыві сімвал адкупленчай Любові. Сімвалам чаго, на іх думку, з'яўляецца Вада?
**А.** Чысціні сэрца
**Б.** Дару Духа Святога і Сакраманту Хросту
**В.** Выканання Божай Волі

***Хрыстус заахвочвае кожнага да дару сэрца з самога сябе, каб быць вучнем Яго Сэрца. "Ніхто не мае большай любові за тую, калі хто аддае жыццё сваё за сваіх сяброў. Вы – сябры мае, калі рабіць будзеце тое, што Я загадваю вам"*** *(Ян 15, 13-14).*



**3** Хто з вучняў Хрыста апынуўся "найбліжэй" да прабітага Сэрца Збаўцы на крыжы?
**А.** Св. Тамаш
**Б.** Св. Ян
**В.** Св. Пётр

***Культ Сэрца Езуса бярэ пачатак з Сярэднявечча. Быў гэта час містычных сведчанняў святых, якія асаблівым чынам разважалі над справай Божай Любові...***



**4** Якая святая ў сваім творы "Пасол Божай пабожнасці" паказвае Сэрца Збаўцы як сувязь любові Бога да душы чалавека і душы да Бога?
**А.** Св. Мэхтыльда
**Б.** Св. Гертруда
**В.** Св. Рыта

***Сапраўднай "рэвалюцыяй" у разуменні культу Божага Сэрца былі містычныя аб'яўленні Езуса французскай манахіні Маргарыце Марыі Алякок, якой Госпад паказаў сваё Сэрца, што палае вогненнай Любоўю да кожнага. Сэрца, якое прагне расселяць свае прамяні на чалавецтва, але каторае атрымлівае ўзамен абыякавасць і боль ад людскіх грахоў.***



**5** Пра што прасіў Езус святую Маргарыту?
**А.** Каб мацней людзі пакутавалі за грахі
**Б.** Каб стварыць новую манаскую супольнасць
**В.** Каб было асобнае Свята на Хвалу Сэрца Езуса

***Езус даў святой Маргарыце Марыі Алякок 12 абяцанняў, якія якія павінны выканаць тыя, хто аддасць пашану Яго Сэрцу і прычыніцца да распаўсюджвання Яго культу.***



**6** Сярод абяцанняў ёсць адно, якое кажа, што Яго Сэрца будзе прыстанішчам у хвіліну смерці і не дасць памерці без Сакрамантаў таму, хто....?
**А.** будзе маліцца ў катэдральным Касцёле раз на месяц
**Б.** будзе мець абраз Сэрца Езуса у сваім доме
**В.** прыме праз дзевяць месяцаў Святую Камунію перапрашэння Божаму Сэрцу за грахі чалавецтва

***Касцёл пацвердзіў аб'яўленні святой Маргарыты Марыі Алякок і ўстанавіў Свята Сэрца Езуса, а таксама дазволіў абразы для культу. Папа Рымскі Клеменс XIII устанавіў Свята для некаторых дыяцэзій і супольнасцяў праз няпоўных сто гадоў пасля аб'яўленняў.***



**7** Які Папа Рымскі распаўсюдзіў Свята Божага Сэрца на ўвесь Касцёл? І ў якім годзе?
**А.** Пій IX – 1856
**Б.** Леон XIII – 1899
**В.** Грыгорый XVI – 1847

***Пабожнасць да Сэрца Езуса моцна звязана з разважаннем над цярпеннем і мукаю Хрыста на крыжы. Любоў Бога ў гэтым аспекце натхніла да з'яўлення ў XIX ст. многіх рухаў і супольнасцяў, асабліва ў Францыі, якія прысвяцілі сябе на службу Божаму Сэрцу.***



**8** Якая супольнасць, заснаваная ў 1878 годзе, асаблівым чынам перажывае штодзённасць у Духу Любові і Узнагароджання за грахі людзей, што так моцна раняць Божае Сэрца?
**А.** Хрыстусоўцы
**Б.** Канонікі рэгулярныя
**В.** Сэрцане

***Існуе шмат практык, звязаных з культам Найсвяцейшага Сэрца: Літанія да Сэрца Езуса, Набажэнства і Святая Камунія першых пятніцаў месяца, Адарацыя, Акт прысвячэння Божаму Сэрцу.***



**9** Адной з практык сць "Святая Гадзіна". Што гэта?
**А.** Медытацыя над цярпеннем Езуса ў Садзе Аліўным
**Б.** Медытацыя моманту смерці Езуса на крыжы
**В.** Медытацыя моманту прыйсця Збаўцы на свет у Бэтлееме

***Культ да Хрыстовага Сэрца праяўляецца таксама ў будове святыняў пад такім тытулам. Адной з найбольш вядомых святыняў, прысвечаной Сэрцу Збаўцы, з'яўляецца базіліка Сакрэ-Кер, пабудаваная паміж 1876 – 1910 гг. на ўзвышшы Манмартр – самым высокім месцы Парыжа.***



**10** Колькі ў Беларусі святыняў, прысвечаных Найсвяцейшаму Сэрцу Езуса?
**А.** Крыху больш за 20
**Б.** Каля 25
**В.** Прыблізна 15

*Падрыхтаваў*
***кл. Аляксандр Пятліцкі SCJ***

**Правільныя адказы на віктарыну: старонка 16**

## На ліпень прыпадаюць дні нараджэння, імяніны і гадавіны святарскага пасвячэння ў наступных святароў:

**1 ліпеня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Міхаіл Татаранка** *(Польшча)*;

**3 ліпеня** – імяніны адзначае **а. Тамаш Міка OP** *(Віцебск)*;

**5 ліпеня** – дзень нараджэння адзначаюць **а. Браніслаў Дашкевіч OP** *(Віцебск)*, **кс. Уладзімір Шыдлоўскі SDS** *(Браслаў)*; гадавіну святарскага пасвячэння адзначаюць **кс. Раман Мурзіч** *(Параф'янава)*, **кс. Александр Сапель SDS** *(Віцебск)*;

**7 ліпеня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Аляксандр Півавар** *(Бешанковічы)*;

**10 ліпеня** – імяніны адзначае **кс. Віталь Галец** *(Ушачы)*;

**14 ліпеня** – дзень нараджэння адзначае **а. Міхаіл Ермашкевіч OP** *(Сянно)*;

**15 ліпеня** – імяніны адзначаюць **кс. Уладзімір Шыдлоўскі SDS** *(Браслаў)*, **кс. Уладзімір Шымковіч** *(Орша)*, **кс. Уладзімір Заянчкоўскі** *(Лепель)*, **кс. Уладзімір Грыгор'еў** *(Іспанія)*;

**16 ліпеня** – гадавіну святарскага пасвячэння адзначаюць **кс. Аляксей Асон** *(Новы Пагост)*, **кс. Аляксандр Баран** *(Лынтупы)*;

**17 ліпеня** – імяніны адзначае **кс. Аляксей Ляшко** *(Віцебск)*;

**20 ліпеня** – імяніны адзначаюць **кс. Чэслаў Курэчка MIC** *(Расія)*, **кс. Ілля Саўчанка MIC** *(Орша)*;

**21 ліпеня** – дзень нараджэння адзначаюць **а. Вадзім Мізер MIC** *(Орша)*, **кс. Аляксандр Сапель SDS** *(Віцебск)*;

**22 ліпеня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Яўген Міхайлаў** *(Лучай)*;

**25 ліпеня** – імяніны адзначае **а. Крыштаф Коц'ян OP** *(Віцебск)*; гадавіну святарскага пасвячэння адзначаюць **кс. Яўген Міхайлаў** *(Лучай)*, **кс. Аляксандр Амяльчэня** *(Ватыкан)*, **кс. Аляксандр Грыцкевіч** *(Верхнядзвінск)*, **кс. Віталь Галец** *(Ушачы)*, **кс. Дзмітрый Рацько** *(Празарокі)*, **кс. Павел Самсонаў** *(Дунілавічы)*; імяніны адзначае **кс. Крыштаф Сілкоўскі SCJ** *(Паставы)*;

**28 ліпеня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Андрэй Бульчак** *(Паставы)*; імяніны адзначаюць **кс. Віктар Мiсевіч** *(Віцебск)*, **а. Віктар Жук SJ** *(Віцебск)*;

**30 ліпеня** – гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **а. Станіслаў Памыкала SJ** *(Віцебск)*.

*Падрыхтавала*
***Вікторыя Колзун***

# Каляндар на ліпень



**2 ліпеня – свята Найсвяцейшай Панны Марыі Будслаўскай.**

У бэрнардынскім касцёле Унебаўзяцця Панны Марыі ў Будславе ўжо больш за чатыры стагоддзі знаходзіцца абраз Маці Божай, шырока вядомы ў XVII–XVIII стст. як цудатворны. Хроніка кляштара сведчыць, што ў 1598 г. абраз быў падораны ў Рыме Папам Кліментам VIII мінскаму ваяводу Яну Пацу, калі той перайшоў з кальвінізму ў каталіцтва. Пасля смерці Паца (1610 г.) абраз застаўся яго капелану Ісаку Салакаю, які неўзабаве стаў даўгінаўскім вікарыем.

У 1613 г. у Вялікі чацвер і Вялікую пятніцу Салакай быў у Будзе. Узрушаны набажэнствам, а таксама просьбамі айцоў-бэрнардынаў, якія ведалі пра прыгожы абраз, ён ахвяраваў яго касцёлу у Будславе. Абраз змясцілі ў драўляным касцёле, дзе яму адразу сталі пакланяцца, ён праславіўся цудамі і ласкамі, а ў 1635 г. быў перанесены ў галоўны алтар на месца ранейшага абраза "Наведзіны Марыяй Альжбеты", які быў адпраўлены ў віленскі кляштар. Гісторыя і цуды абраза, пачынаючы з 1617 г., апісаны гвардыянам будскага кляштара Элеўтэрыем Зеляевічам у кнізе "Задыяк на зямлі". Аўтар узнёсла апісвае будскую мясцовасць і гісторыю ўзнікнення кляштара, сведчыць пра пілігрымкі сюды на свята Унебаўзяцця Багародзіцы вернікаў з-пад Полацка, Браслава, Віцебска, Мінска, Ашмянаў. Характэрна, што да шанаванага абраза прыходзілі не толькі рыма-католікі, але і ўніяты, а іх даўгінаўскія святары "са сваёй кампаніяй" штогод цэлебравалі тут "грэцкае набажэнства".



**3 ліпеня – свята святога Тамаша, апостала.**

Святы Тамаш, празваны Дыдым (Блізня), да паклікання ў супольнасць апосталаў быў рыбаком у Галілеі. Калі Езус у Дзень Уваскрасення з'явіўся апосталам, Тамаша сярод іх не было. Ён спачатку не паверыў ва ўваскрасенне, а таму яго часта называюць "Тамаш, які не верыць". Падчас наступнага з'яўлення ўваскрослы Збаўца звярнуўся да Тамаша, каб той на ўласныя вочы пераканаўся, што перад ім – сам Езус, на што Тамаш усклікнуў: "Пан мой і Бог мой!" Пасля ўнебаўшэсця Хрыста апостал накіраваўся ў місію ў Персію і Індыю, дзе, паводле падання, сустрэўся з трыма каралямі, ахрысціў іх і прызначыў біскупамі. Каля 72 г. прыняў мучаніцкую смерць у Індыі: быў забіты паганцамі мячом або дзідаю. Яго заступніцтва просяць, молячыся пра шчаслівае сужэнства.

**16 ліпеня – успамін Найсвяцейшай Панны Марыі з гары Кармель (Маці Божай Шкаплернай).**

У XIV ст. на гары Кармель у Палесціне існаваў ордэн, чальцы якога, духоўныя сыны прарока Іллі, называлі сябе братамі Найсвяцейшай Панны Марыі. Кармеліты вялі жыццё, адданае малітве, працы і пакаянню, захоўваючы цноты чысціні, убоства і паслухмянасці. У канцы XIII стагоддзя ў сувязі з пераследаваннямі з боку мусульманаў, рэлігійнымі войнамі з туркамі і заняпадам Касцёла на Святой Зямлі законнікі былі вымушаны выехаць у Еўропу. Тут, у новым асяроддзі, перад малавядомым законам узнікла пагроза роспуску. У такім цяжкім становішчы генерал закона Сымон Сток пачаў прасіць Марыю, каб Яна захавала прысвечаны Ёй закон. У адказ на шчырую малітву Марыя аб'явілася святому Сымону ў ноч з 15 на 16 ліпеня 1251 г. У атачэнні анёлаў, указваючы на шкаплер, Яна асвяціла яго знакам Сваёй Матчынай апекі, сказаўшы: "Гэта будзе прывілей для цябе і для ўсіх кармелітаў: хто ў ім памрэ, не зведае агню пякельнага". Пасля таго аб'яўлення зніклі ўсе перашкоды і закон пачаў пашырацца па ўсёй Еўропе. Праз 70 гадоў Маці Божая аб'явілася Святому Айцу Яну XXII і, пацвярджаючы папярэднія прывілеі (асаблівую апеку ў зямным жыцці і пазбаўленне ад агню пякельнага), абяцала, што кожны, хто ў момант смерці будзе мець на сабе Яе шкаплер, у першую суботу пасля смерці будзе выведзены з чыстца ў неба.



**22 ліпеня – свята св. Марыі Магдалены**

Са старонак Бібліі вядома, што Марыя прыйшла з Магдалы – "рыбнай вежы" на Галілейскім моры, гэта прыкладна чатыры км на паўночны захад ад Тыберыі. Вядома, што Езус выгнаў з яе сем злых духаў (Мк 16, 9, Лк 8, 2). Ад гэтага моманту яна становіцца вернай спадарожніцай Хрыста і клапоціцца разам з іншымі жанчынамі пра людзей, якія ідуць за Езусам. Усе чатыры евангелісты сведчаць пра тое, што Марыя Магдалена прысутнічала пры смерці Хрыста і падчас Яго пахавання. Заходняя традыцыя атаясамлівае Магдалену з блудніцай, якую Хрыстос выратаваў ад збіцця камянямі і якая здзейсніла вельмі кранальны ўчынак – калі Езус абедаў у аднаго з фарысеяў, яна прыпала да ног Ягоных, стала ліць на іх каштоўны духмяны алей, абмываць іх слязьмі і выціраць сваімі валасамі.

Евангелле змяшчае тры згадкі пра гэты эпізод. Прынамсі, адзін з іх прыпісваецца Марыі. Няма ўпэўненасці ў тым, што яна была распусніцай, але дакладна вядома, што яна была сведкай уваскрасення Хрыста. Марыя Магдалена па просьбе Езуса пайшла да апосталаў, каб абвесціць ім, што Ён уваскрос. Пазней яны сталі пераказваць гэтую праўду іншым. Таму слушна, што яна была названа "апосталкай апосталаў".



22 ліпеня Каталіцкі Касцёл адзначае дзень Марыі Магдалены як свята. Яшчэ да 2016 г. гэта быў абавязковы ўспамін. Змена адбылася па жаданні Папы Францішка, які хацеў такім чынам падкрэсліць ролю не толькі гэтай святой жанчыны, што першая перадала свету звестку пра ўваскрасенне Пана Езуса, але і ролю ўсіх жанчын у Касцёле.



**26 ліпеня – успамін святых Яўхіма і Ганны, бацькоў Найсвяцейшай Панны Марыі.**

Ушанаванне святога Яўхіма і святой Ганны распаўсюджанае ва ўсім Касцёле. Ужо ў IV–V стст. у Ерусаліме пры былой купальні Віфезда была пабудаваная капліца, прысвечаная святым Яўхіму і Ганне. Тут нават згодна з паданнем павінна размяшчацца іх грабніца. Іншым месцам іх пахавання лічаць Алейную гару.

Літургічнае свята ўвёў у 710 г. імператар Юстыніян II пад назвай "Зачацце св. Ганны". Яно святкавалася ў розныя дні альбо разам са святам св. Яўхіма. На Захадзе яно стала адзначацца пазней. У Неапалі свята вядомае з X ст. Папа Урбан VI у буле "Splendor æternæ gloriæ" ад 21 чэрвеня 1378 г. дазволіў спраўляць гэтую ўрачыстасць у Англіі. Папа Юлій II у 1522 г. распаўсюдзіў яго на ўвесь Касцёл і прызначыў датай 20 сакавіка. Папа Грыгорый XIII аднавіў свята (1584) і прызначыў для яго дзень 26 ліпеня. Папа св. Пій X у 1911 г. увёў асобны дзень ушанавання св. Яўхіма, прызначыўшы яго на 16 жніўня. Свята св. Ганны працягвала адзначацца 26 ліпеня. Але літургічная рэформа 1969 г. зноў злучыла разам іх імёны ў дзень 26 ліпеня.



**29 ліпеня – успамін св. Марты**

Святая Марта была сястрою Марыі і Лазара з Бэтаніі. Езус часта бываў у іх доме. Аднойчы Езус гасціў у іх, Марта як добрая гаспадыня вельмі клапацілася, каб прыгатаваць пачастунак, а яе сястра Марыя проста сядзела каля ног Збаўцы і ўважліва слухала Яго. Гэта раззлавала Марту, але Езус сказаў, што менавіта Марыя выбрала ў гэтым выпадку "найлепшую частку". У іншым эпізодзе з Евангелля паводле Яна, у якім апавядаецца пра ўваскрашэнне Лазара, Марта вызнае месіянства Хрыста. Паводле легенды, пасля ўваскрасення Езуса Марта разам з братам і сястрою накіравалася ў Францыю, дзе абвяшчала Евангелле і жыла ў пакаянні. Яна памерла ў хуткім часе пасля сястры і была пахаваная ў Тарасконе на поўдні Францыі. Святая з'яўляецца апякункай хатніх гаспадыняў і работніц.

# Родныя ў манастве і духавенстве

**Сярод манахінь і святароў нашай краіны ёсць родныя браты і сёстры. "Каталіцкі Веснік" пагутарыў з некаторымі з іх.**



**Айцец Юрый Кулай OCD і сястра Магдаліна Кулай CSCII** нарадзіліся і выраслі ў Брэсце. Старэйшы амаль на тры гады айцец Юрый.

Іх тата быў з праваслаўнай сям'і, а маці з каталіцкай. Шлюб бацькі бралі ў Касцёле і дзяцей выхоўвалі ў каталіцкай веры. Яны былі простымі людзьмі і шмат працавалі. Разам з тым, як адзначае айцец Юрый, яны вельмі стараліся весці сына і дачку да Бога як маглі. Бабуля Марыя паклапацілася пра тое, каб унукі прынялі сакраманты. Госпад заўсёды прысутнічаў у сям'і.

Юрый, будучы маленькім хлопчыкам, вельмі чакаў дня нараджэння сястры. У дзяцінстве яны заўсёды падтрымлівалі адно аднаго і жылі вельмі дружна. У школьныя гады іх жыццё было цалкам звязана з Касцёлам: удзел у святой Імшы, катэхезы, "Канікулы з Богам", пілігрымкі. Цікава, што дзесьці ў пятым класе ў абоіх з'явіліся першыя думкі пра пакліканне, якія неўзабаве зніклі.

Потым а. Юрый хацеў стаць перакладчыкам або журналістам, а с. Магдаліна шэф-поварам, праваднiцай, прадаўцом, медсястрой, катэхеткай… Сур'ёзнае жаданне стаць манахіняй і святаром-манахам таксама ў абоіх з'явілася дзесьці ў дзявятым класе. Напрыканцы школы пра далейшы жыццёвы шлях пытанняў у падлеткаў ужо не ўзнікала. Зараз а. Юрый з'яўляецца пробашчам ў мінскай парафіі Божага Цела, служачы ў ордэне кармелітаў босых. Сястра Магдаліна знаходзіцца ў Кангрэгацыі сясцёр-кармелітак Дзіцятка Езуса, жыве ў Гудагаі пры Санктуарыі Маці Божай. Яна таксама дапамагае ў парафіі Св. Яна Паўла II у Смаргоні.

**Айцец Юрый для сястры:** "Дарагая сястра! Трымайся верна Хрыста, Які даверыў табе быць Яго рукамі, нагамі, вачыма і вуснамі для Касцёла і свету!"

**Сястра Магдаліна для брата:** "Няспынна дзякую Богу за Цябе, брацік! За кожную добрую параду і за няспынную падтрымку. Захапляюся, як клапоцішся пра справу збаўлення тых, каму служыш, дзе б Ты ні быў. Нясі праўду Хрыста для нашай Беларусі!"



**Ксёндз Анатоль і ксёндз Віктар Захарэўскія**

Два браты нарадзіліся на Ашмяншчыне. Старэйшы з іх амаль на чатыры гады Анатоль. У святароў ёсць яшчэ адзін брат – Ян, які мае сям'ю.

З самага дзяцінства бабуля з матуляй прывівалі хлопцам веру ў Бога і вучылі маліцца. Касцёл у Гальшанах тады быў зачынены, усе браты былі ахрышчаны ў Вішневе. Сакрамант хросту ім удзяляў знакаміты святар-адраджэнец Уладзіслаў Чарняўскі.

29 ліпеня 1990 года гальшанскі касцёл пачаў працаваць. Віктара першага паклікаў да алтара служыць міністрантам а. Людвік Бартошэк, а праз тыдзень Анатоль таксама далучыўся. Хлопцам вельмі падабалася дапамагаць у святыні. На працягу ўсіх канікул яны прыязджалі на роварах на Імшу. Можна сказаць, браты "не вылазілі "з касцёла.

Кс. Анатоль прыгадвае такі выпадак: "Аднойчы а. Людвік сказаў міністрантам, што, калі хтосьці хоча стаць ксяндзом, неабходна кожны дзень прамаўляць адзін раз малітву "Вітай Марыя"… Я задумаўся, можа, і мне таксама трэба? І пачаў маліцца нават больш, чым сказаў пробашч". Калі Віктар быў у восьмым класе, Анатоль пайшоў у семінарыю.

Кс. Віктар распавядае: "Многія пыталіся і ў мяне, ці буду я ксяндзом. Святарам я адказваў "так", а іншым свецкім людзям – "не". У школе мяне часта называлі "ксёндз". Калі я быў у выпускным класе, то нікому не казаў пра сваё рашэнне падаць дакументы ў семінарыю. Аднойчы ранкам да нас дамоў прыйшоў кс. Леанард Чухонскі, тагачасны пробашч у Міхалішках. Мама хутка згатавала сняданне для госця, а ён у мяне запытаў, куды я паступаю. Мой адказ падслухаў брат Ян і расказаў усё маме. Так усе даведаліся пра маё рашэнне пайсці ў семінарыю". Рашэнню здзівіўся і старэйшы брат-клерык, бо на тэму пакліканне хлопцы ніколі не размаўлялі. У Гродзенскай семінарыі браты правучыліся разам нават два гады.

Сёння кс. Анатоль служыць у парафіі Святога Міхала Арханёла ў Міхалішках (Астравецкі дэканат), а кс. Віктар – у суседняй парафіі Св. Юрыя ў Варнянах Адлегласць паміж вёскамі ўсяго пятнаццаць км. Браты часта бачацца, наведваюць і дапамагаюць адзін аднаму. Святары вельмі шчаслівыя, што Госпад паклікаў іх абодвух прапаведаваць Божае Слова і служыць людзям.



**Назарэтанкі сястра Паўла Волчак і сястра Кляра Волчак** нарадзіліся і выраслі ў Шчучыне. Старэйшая з іх, Паўла, выпрасіла ў бацькоў сабе малодшую сястрычку. У манахінь ёсць яшчэ брат, які мае сваю сям'ю.

Бацькі дзяўчынак былі шчырымі вернікамі і свaёй верай дзяліліся з дзецьмі. Штодзённа сям'я хадзіла на Імшу і разам малілася. У свой час мама і тата сясцёр пісалі пісьмы-просьбы пра вяртанне святыні ў Шчучыне. Тата нават некалькі разоў ездзіў у Маскву, Мінск, Гродна з дэлегацыяй у гэтай справе.

Перад тым, як святыню аддалі, тата атрымаў дазвол прывезці ў Шчучын Найсвяцейшы Сакрамант, захоўваць дома на гарышчы, а падчас малітваў – удзяляць Камунію. Калі ж урэшце аддалі касцёл, бацька праводзіў там набажэнствы і ўдзяляў Камунію. Як прыехаў святар, бацька стаў закрыстыянінам. У сям'і сёстры былі разам толькі некалькі гадоў. Калі малодшай – Кляры – споўнілася восем гадоў, Паўла ўжо паехала вучыцца ў Люблін. Таму больш часу разам яны праводзілі ўжо ў кляштары.

Пра пакліканне с. Кляра марыла з дзяцінства: "Ужо ў тры гады я аб'явіла сваё рашэнне быць манахіняй. Дакладна не памятаю, але недзе ў васьмі-дзевяцігадовым узросце я ўжо дакладна ведала, што буду сястрой. Таму ў свае дванаццаць гадоў прасіла прыняць у Назарэт. Прынялі мяне, праўда, у трынаццаць, калі вучылася ў восьмым класе. Гэта быў аспірат, самы пачатковы этап фармацыі. Для мяне было важна тое, што я паволі набліжаюся да сваёй мары і мэты. Пасля адзінаццатага класа я паступіла ва ўніверсітэт, а пасля другога курса перарвала вучобу для навіцыята. У 2003 годзе я прыняла першыя манаскія шлюбы ў Кангрэгацыі сясцёр Найсвяцейшай Сям'і з Назарэта".

Сястра Паўла ў дзяцінстве марыла стаць святаром: "Я хрысціла ўсіх сваіх сяброўак і лялек. Такімі былі мае гульні ў савецкі час. Маці ж мне сказала, што я дзяўчынка, таму не змагу быць ксяндзом. Мая мара была разбураная. Пазней, калі мне было пятнаццаць гадоў, я ўпершыню ўбачыла манахіню ў чорным адзенні. Аднак хутка забыла пра гэта. Я скончыла школу і марыла пра сям'ю і траіх дзяцей. Але праз год я цвёрда вырашыла быць манахіняй".

Зараз сястра Паўла знаходзіцца на місіі ў Аўстраліі, а сястра Кляра служыць у Беларусі.

**Сястра Кляра для сястры Паўлы:** "Я цябе вельмі люблю, дарагая сястра! Я вельмі ўдзячная табе за тое, што мяне "выпрасіла" ў мамы з татам, і за тое, што мяне выхоўвала, вучыла і клапацілася пра мяне. Ты стала сапраўдным прыкладам вернай і добрай назарэтанкі! Гэта так крута – мець старэйшую сястру ў кляштары!"

**Сястра Паўла для сястры Кляры:** "Дарагая мая сястра Кляра! Я вельмі ўдзячная Госпаду за цябе! Дзякуй, што ты ёсць. Спадзяюся, што хутка эпідэмія скончыцца і мы ўбачымся. Моцна абдымаю і малюся!"

*Гутарыла*
***Ірына Радзевіч***

# Два новапрэзбітары-беларусы ў супольнасці палатынаў. Адзін паходзіць з Віцебскай дыяцэзіі

**8 мая ў семінарыйным касцёле Каралевы Апосталаў у Алтажаве (Польшча) прэзбітарскае пасвячэнне ў супольнасці палатынаў прынялі два беларусы – дыякан Руслан Пецкелюн SAC з Воранава (Гродзенская дыяцэзія) і дыякан Павел Зайцаў SAC з Талачына (Віцебская дыяцэзія).**

**Дарыюш Шчэпанік SAC**, *grodnensis.by*

Пасвячэнне чатыром кандыдатам да святарства ўдзяліў дапаможны біскуп Варшаўскай архідыяцэзіі Рафал Маркоўскі.

Іерарх, звяртаючыся да дыяканаў, нагадаў, што ў Вячэрніку Хрыстус аб'явіў сваім апосталам новыя запаведзі любові і назваў іх сябрамі, а таксама ўстанавіў Эўхарыстыю.

Правінцыял палатынскай правінцыі Хрыста Валадара кс. Зянон Ганас SAC адзначыў падчас Імшы, што задача святара – падрыхтоўка трону для Найсвяцейшай Тройцы ў душах, адкупленых Крывёю Божага Ягняці.

У час жыцця ў родным доме, пастулату, навіцыяту і шасці гадоў семінарыйнай фармацыі новапрэзбітары з вялікай ахвотай рыхтаваліся да гэтага дня, калі сталі Alter Christus (другім Хрыстом) і пачалі шлях, каб праз святарства заўсёды быць разам з Езусам.





## Хвала Хрысту!

*Сардэчна віншуем з нагоды Дня нараджэння (3 чэрвеня) і з імянінамі (24 чэрвеня) нашага ўсімі любімага **ксяндза Яна Пугачова**!*

*Паважаны ксёндз Ян! Прыміце шчырыя віншаванні ад парафіян касцёла Святога Міхала Арханёла ў Лужках! Зычым Вам шмат радасці, здароўя, нястомнага запалу духа ў святарскай паслузе. Няхай Найсвяцейшая Панна атуляе Матчынай любоўю і апекай, асабліва ў складаныя жыццёвыя хвіліны, і выпрошвае ў Сына ўсе неабходныя ласкі!*

*Штодзённыя жыццёвыя намаганні няхай Вас, ксёндз Ян, акрыляюць і дапамогуць заўважаць і захапляцца прыгажосцю і глыбінёй жыцця. Вы нястомна і самаадданa будуеце духоўны падмурак нашай парафіяльнай супольнасці, праз абвяшчэнне слова Божага ведзяце нас па дарозе Праўды.*

*Няхай Ваша мудрасць, дабрыня і клопат пра людзей заўсёды будуць для нас прыкладам жыцця! Мы бязмежна ўдзячныя Пану Богу за тое, што Вы сталі нашым пастырам, а Вам удзячныя за сумленнасць і адданасць Божай справе, за Вашу шырасць, за добрае сэрца, лагодную ўсмешку і супакой, якія ад Вас прамяніцца!*

***З вялікай павагай і ўдзячнасцю, парафіяне касцёла Святога Міхала Арханёла (аг. Лужкі Шаркаўшчынскага раёна)***

## Хвала Хрысту!

*Віншуем **ксяндза Уладзіміра Шымковіча** з 16-й гадавінай святарскага пасвячэння!*

*Не ўсім Пан Бог давярае прайсці нялёгкі шлях святарства. Ксёндз Уладзімір нясе святло ў нашы сэрцы. Гэта чалавек з вялікай любоўю да нас, грэшных, і вялікім дарам прабачэння. Гэта сапраўдны пастыр, які служыць сваёй пастве, як служыў Езус Хрыстус! Наш дарагі ксёндз Уладзімір пасланы нам Божым Провідам служыць на Дубровенскай зямлі.*

*Сардэчна дзякуем Вам, наш любімы ксёндз, за добрыя словы, за малітву, за цярпенне, за абвяшчэнне Божага слова, за патрэбныя нам парады, за тое, што Вы несяце спакой у нашы сэрцы! Жадаем Вам, дарагі ойчанька, Божай ласкі і моцнага здароўя, шчасця, нязломнай веры, доўгіх і плённых гадоў жыцця, сілаў, каб весці Божы люд да Пана і абвяшчаць Добрую Навіну!*

***З павагай і ўдзячнасцю, вернікі парафіі Маці Божай Фацімскай у Дуброўне***

## Хвала Хрысту!

*Усе вернікі парафіі Езуса Міласэрнага ў Паставах шчыра віншуюць святароў – **кс. Андрэя Бульчака, кс. Чэслава Куцмежа SCJ, кс. Кшыштафа Сілкоўскага SCJ** – з гадавінамі святарскага пасвячэння (17 чэрвеня), а **кс. Валерыя Марціноўскага** – з днём нараджэння (11 чэрвеня)! Усім ім жадаем плёну на Божай Ніве, апекі Маці Божай, дапамогі ўсіх святых і анёлаў-ахоўнікаў! Дзякуем за цудоўныя казанні і за навуку, за шчырасць і адданасць Божай справе. Памятаем ў малітве!*

***З удзячнасцю і павагай, рух “Маргарытка” з парафіі Езуса Міласэрнага (Паставы)***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*У маі нашы паважаныя айцы адзначылі чарговыя гадавіны святарскага пасвячэння: **а. Вальдэмар Кузява** – 13 мая, **а. Яраслаў Банасяк** – 29 мая.*

*Мы, парафіяне касцёла Беззаганнага Зачацця НПМ у в. Удзела, сардэчна віншуем нашых айцоў, дзякуем ім і нізка кланяемся за чалавечнасць, за адкрытасць і вялікую адданасць у імя святой справы! Няхай Збаўца адорыць іх моцным здароўем, радасцю, любоўю і надзеяй, а Дух Святы хай дапамагае выконваць душпастырскую паслугу!*

## Пахвалёны Езус Хрыстус!



*Паважаны **ксёндз-пробашч Павел Самсонаў**!*

*Шчыра віншуем Вас з Днём нараджэння (15 чэрвеня) і выказваем вялікую пашану і ўдзячнасць за натхненне, цярпенне і служэнне на Божай ніве, асабліва ў нашай парафіі. Сардэчна дзякуем за добрыя словы і змястоўныя казанні, якія захапляюць мудрасцю і прастатой, за прыветлівую ўсмешку, за цудоўны голас! Заўсёды адчуваецца Ваш клопат пра нас, парафіян. Мы бачым, колькі Вы прыкладаеце сіл і намаганняў, каб наша святыня і яе наваколле радавала жыхароў і гасцей нашага слаўнага мястэчка.*

*Хай ад Бога Вам здароўе і сіла даецца,*
*І, як Езуса сэрца, праменіцца Вашае сэрца!*
*Хай ад Духа Святога дaецца вам мудрасць і ўменне,*
*А ад Божае Маці – разважлівасць, ласка, цярпенне!*

*Жадаем моцнага здароўя Вашым бацькам! Заўсёды молімся за Вас, паважаны наш пробашч!*

***Удзячныя парафіяне касцёла Найсвяцейшай Тройцы (Дунілавічы)***

## Хвала Хрысту!

*9 чэрвеня дзень нараджэння адзначыў вікарый катэдральнай парафіі Езуса Міласэрнага **ксёндз Алег Зямчонак**.*

*Шаноўны ксёндз Алег! Прыміце нашы шчырыя віншаванні з нагоды дня нараджэння! Жадаем Вам моцнага здароўя, хрысціянскай радасці і супакою, Божай дапамогі ў штодзённых справах, надзейных сяброў і добрых людзей побач! Няхай Вашае служэнне будзе плённым, цяжкасці – пераадольнымі, радасць – поўнай, а Святло ў Вашым жыцці хай заўсёды перамагае цемру!*

***З малітвай і вялікай удзячнасцю, вернікі парафіі Езуса Міласэрнага (Віцебск)***

## Хвала Хрысту!

*27 чэрвеня адзначае імяніны **ксёндз Уладзіслаў Шарковіч**.*

*Шчыра віншуем Вас, паважаны ксёндз Уладзіслаў! Жадаем Божых ласкаў на шляху святарскага служэння, моцы Духа, мужнасці, нястомнай надзеі, нязломнай веры! Няхай заступніцтва Вашага нябеснага апекуна дапамагае Вам быць верным сведкам Хрыстовага Евангелля!*

***З удзячнасцю і малітвай, парафіяне касцёла Святой Тройцы ў Глыбокім***

## Шчыра віншую!

*З нагоды 10-гадовага юбілею “Каталіцкага Весніка” шчыра віншую **рэдакцыйны калектыў газеты** і галоўнага рэдактара **ксяндза-каноніка Віктара Місевіча**! Гэта важны і адметны адрэзак часу ў жыцці выдання і нас, вашых чытачоў.*

*Газета цікавая, своечасовая, вельмі патрэбная. На мой погляд, газеце хапае ўсяго: пазітыву, пабожнасці, добрых навін, гістарычных артыкулаў, парад псіхолага і інш. Рубрыкі вельмі цікавыя і змястоўныя.*

*Заставайцеся і надалей плённымі руплівцамі на Божай ніве. Няхай Збаўца свету адорыць вас усімі патрэбнымі ласкамі! Шчодрых вам дароў Духа Святога і апекі Маці Божай!*

***Ваша ўдзячная чытачка і падпісчыца з сямігадовым стажам, час ад часу аўтар допісаў – Нэля Лось (Лынтупская парафія Св. Апостала Андрэя)***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*Наш былы пробашч **ксёндз Алег Півавар** 13 чэрвеня адзначыў імяніны.*

*Сваёй ахвярнай святарскай працай, добрасумленнем ксёндз Алег заслужыў павагу і любоў усіх вернікаў нашай парафіі.*

*Паважаны ксёндз Алег! Прыміце шчырыя словы падзякі за Ваша вялікае добрае сэрца, за прыклад глыбокай веры і любоў да людзей, за навучанне Божаму слову, за пабудову касцёла! Няхай Добры Бог, Найсвяцейшая Панна Марыя не пакінуць Вас без сваёй апекі, хай прыносяць радасць і суцяшэнне, а агеньчык, запалены Панам Богам у Вашым сэрцы, няхай гарыць усё Вашае святарскае жыццё! Нябесны Апякун – св. Антоні Падуанскі – хай заступаецца перад Богам, дапамагае ва ўсіх патрэбах!*

*Мы заўсёды молімся за Вас, любім Вас і чакаем у госці на парафіяльнае свята, на 20-годдзе парафіі!*

*Шчасці, Божа, бацькам за сыноў-святароў!*

***З удзячнасцю і павагай, парафіяне касцёла святога Айца Піа ў Лёзне***

# Май, Марыя, малітва

Самы прыгожы веснавы месяц прысвечаны ўшанаванню Найсвяцейшай Панны. Праз майскія набажэнствы і ружанцовыя разважанні мы далучаемся да справы асабістага навяртання, молімся за касцельную супольнасць і за нашы сем'і.

Ва ўсе часы сям'я была асновай грамадства, увасабленнем міру і згоды, любові і адданасці, прыгажосці адносін паміж мужам і жонкай, бацькамі і дзецьмі.

Сям'я слабее, калі нехта з родных лічыць свае інтарэсы і выгоды важнейшымі за пачуцці і патрэбы малога, састарэлага, хворага ці чальца. Яскравы прыклад Святой Сям'і заўсёды застаецца ўзорам нашых штодзённых узаемаадносін. Марыі і Юзафу было нялёгка, але Яны прынялі Божую волю і выканалі яе.

У свеце адбылося і адбываецца шмат жорсткіх і крывавых падзей. Сучасны адукаваны і быццам гуманна выхаваны чалавек таксама можа забіваць, калечыць, зневажаць. Толькі моцная вера дапаможа нам не страціць чалавечае аблічча. А сям'я, пачатая ля алтара, з Божай дапамогай укладзе ў свядомасць сваіх дзяцей асновы хрысціянскай маралі.

Я з удзячнасцю ўспамінаю сваіх бацькоў, якія адышлі ўжо ў вечнасць, дзякую ім за любоў, пяшчоту, душэўны камфорт, што панавалі ў нашым доме. Пачатак 50-х гадоў мінулага стагоддзя быў увогуле складаным, а для маёй сям'і асабліва: калектывізацыя, пагроза быць вывезенымі, хоць тата аддаў у калгас усю маёмасць. Удзень па вёсках з агітбрыгадамі ездзілі НКУСаўцы, а ноччу наведваліся “лясныя браты”. Першыя патрабавалі зняць абразы, другія дзівіліся, што абразы вісяць, і злосна крычалі, што гаспадары нечым дагадзілі начальству.

А тут яшчэ цяжка захварэла мама. Трэба было везці яе ў Паставы да доктара. Мне было пяць гадоў, а брацiку – чатыры, пакінуць нас не было з кім. Бацька пайшоў да брыгадзіра прасіць каня, а быў май – пасяўная. Свайго Сівачка яму не далі. Запрог, якога выдзелілі, пасадзіў нас усіх на воз, і мы паехалі. Мама, выходзячы з хаты, зняла са сцяны абразок Маці Божай, які называла “Маёвая”, і палажыла яго ў сумку. Што адбылося ў дарозе, распавядала нам ужо дарослым. Калі выехалі на шашу, конь спужаўся машыны і панёс воз па бруку так, што аж іскры сыпаліся з-пад калёсаў. Мама абхапіла нас, сонных, і толькі шаптала: “Матачка, ратуй! Прачыстая, дапамажы!” Яшчэ адна машына пасігналіла, абганяючы нас, і ашалелы конь рвануў у лес. Вось тут і здарыўся цуд, які вытратаваў нас: воз раптам разваліўся на дзве часткі. Конь з пярэднімі калёсамі знік у кустах, а збялелыя бацькі з намі засталіся сядзець на другой палове. Матуля была перакананая, што яе адчай і боль пачула Тая, Якая міласэрна дапамагае ў цяжкія хвіліны.

Наша сямейная рэліквія, мілы майму сэрцу абраз і па сённяшні дзень вандруе са мной па жыцці, ахоўвае ад пераменлівага лёсу. Пакуль не скончылася мая зямная пілігрымка, доўжыцца і мая шчырая малітва да Маці Божай. Яна асабліва трапяткая ў цудоўныя майскія дні, калі адчуваю радаснае хваляванне ад яркіх фарбаў веснавых кветак, птушыных спеваў, водару маладой лістоты. О, Маці наша Найсвятлейшая, мы ўсе – дзеці Твае! Прымі адкрытыя душы нашыя! Няхай абдымаюць нас ласкавыя рукі Твае і бароняць ад усяго злога!

*Нэля Лось (Лынтупы)*

# На Свой вобраз і падабенства: чалавек вачыма Бога

**Кім ёсць чалавек? Адказ на гэтае пытанне спрабавалі знайсці на працягу стагоддзяў прадстаўнікі розных філасофскіх плыняў і светапоглядаў.**

**с. Дар'я Галубкова OV**

Уласнае бачанне чалавека намагаліся перадаць у сваёй творчасці пісьменнікі і мастакі. А між тым поўную праўду пра чалавека Бог адкрыў нам праз сваё Аб'яўленне. Праз сваё Слова Ён паказвае нам канчатковую мэту і сэнс жыцця чалавека. Стварэнне і адкупленне надае кожнай чалавечай асобе найвышэйшую годнасць, якой яна не можа быць пазбаўлена.



Свет з розных бакоў імкнецца навязаць свае ўяўленні пра чалавека і яго перадвызначэнне. Фальшывыя і аднабаковыя тэорыі нярэдка выкарыстоўваюцца ў карыслівых і злачынных мэтах, напрыклад, каб зрабіць з чалавека інструмент для дасягнення прыбытку ці ўтрымання ўлады і кантролю над грамадствам. Таму нам, хрысціянам, так важна ведаць і памятаць, кім мы сапраўды з'яўляемся ў Божых вачах.

"І сказаў Бог: створым чалавека **паводле вобразу Нашага і падабенства Нашага**, і няхай валадарыць над рыбамі марскімі, і над птушкамі нябеснымі, і над жывёламі, і над усёю зямлёю" (Бц 1,26). Ужо на першых старонках Кнігі Быцця ўвесь свет паўстае перад намі як Божае стварэнне, якое з'яўляецца добрым. Сярод стварэнняў чалавек атрымлівае асаблівае месца і пакліканне. Менавіта для чалавека былі створаны неба і зямля, сонца і месяц, расліны і птушкі, а сам ён стаў носьбітам Божага вобразу, адзіным стварэннем, якое Бог хацеў дзеля яго самога. Чалавек пакліканы быць саўдзельнікам Божага жыцця, пакліканы прыняць міласэрны дар Божы і адказаць на яго.

Чалавек, які носіць у сабе вобраз Бога, з'яўляецца істотай **разумнай**. У адрозненне ад іншых істот, нават найбольш развітых жывёл, ён здольны пазнаваць не толькі навакольны свет, але і сябе, сваё ўнутранае жыццё, свядома кіраваць сабой. Ён з'яўляецца кімсьці, а не чымсьці, адзінай у сваім родзе асобай.

Чалавек, які носіць у сабе вобраз Бога, з'яўляецца істотай **вольнай**. Ён можа выбіраць тое, што хоча, а не тое, што неабходна, да чаго яго схіляюць інстынкты ці грамадскія звычаі. Аднак гэта не азначае самавольства: свабода робіць чалавека адказным за свой выбар.

Чалавек, які носіць у сабе вобраз Бога, мае **несмяротную душу**. "І стварыў Бог чалавека з пылу зямлі, і ўдыхнуў ў яго дыханне жыцця, і стаў чалавек душою жывою" (Бц 2,7). Чалавек не проста *мае* душу і цела, але *ёсць* адначасова душой і целам, якія ў ім ствараюць еднасць. Гэтыя два элементы ў чалавеку нельга супрацьпастаўляць ці прыніжаць вартасць аднаго з іх.

Чалавек, які носіць у сабе вобраз Бога, **пакліканы да дыялогу** любові і яднання з Богам ды ўдзелу ў Яго Боскім жыцці. Чым бліжэй чалавек да Бога, тым больш ён становіцца чалавекам, узрастае як асоба. Сапраўдным адказам на Божую любоў з'яўляецца наша поўная аддання любоў да Яго.

Чалавек, які носіць у сабе вобраз Бога, дзейнічае як Ягоны **супрацоўнік і прадстаўнік** у адносінах да навакольнага свету, а не як Яго канкурэнт. З даручэння Божага чалавек павінен развіваць і ўдасканальваць створаны свет. Гэта не толькі прывілей, але і асаблівая адказнасць: чалавек павінен любіць і клапаціцца пра прыроду і жывых істотаў на ўзор іх Стваральніка.

Чалавек, які носіць у сабе вобраз Бога, **пакліканы да жыцця ў супольнасці**, на ўзор супольнасці Асобаў Найсвяцейшай Тройцы. "І сказаў Пан Бог: нядобра быць чалавеку аднаму" (Бц 2,18). Гэтыя словы Пісання не адносяцца выключна да саюзу мужчыны і жанчыны. Чалавек мае патрэбу ў іншым чалавеку, патрэбу ўтварэння супольнасці з іншымі людзьмі, развіцця супольных каштоўнасцяў.

Чалавек, які носіць у сабе вобраз Бога, з'яўляецца істотай, **здольнай любіць** сябе і бліжняга. Гэта азначае, што ён не толькі мае патрэбу нешта атрымліваць ад іншых, але і ахвяраваць сабой, аддаваць штосьці з сябе для бліжніх. Інакш кажучы, чалавек здольны складсці бескарыслівы дар з сябе і здольны прыняць гэты дар ад іншага чалавека. Без любові чалавек не можа быць сапраўдным чалавекам.

Чалавек, які носіць у сабе вобраз Бога, ніколі яго **не страціць**. Мы не з'яўляемся марыянеткамі ў Божых руках, бо Ён шануе нашу свабоду, якою сам нас абдараваў. Мы вольныя выбраць іншы шлях – адмоўна адказаць на Божае пакліканне. Першародны грэх якраз і заключаўся ў тым, што людзі не прынялі дару Бога, не паслухалі Яго і свядома разарвалі з Ім дыялог любові. Чалавек прагнуў сам вырашаць, што з'яўляецца дабром, а што злом, прагнуў дасягнуць поўнай незалежнасці ад Стваральніка. У выніку першародны грэх стаў крыніцай зла ў чалавеку, прычынай яго маральнага аслаблення, знішчэння гармоніі не толькі з Богам, але з навакольным светам і іншым чалавекам. Калі чалавек, пакліканы да жыцця ў любові і згодзе з бліжнімі, канцэнтруецца толькі на сабе, то адначасова дэградуе сам: паддаецца спакусам і найніжэйшым інстынктам, распальвае нянавісць, войны, падзелы. Тым не менш, нават пасля скажэння грахом, чалавек не страціў цалкам падабенства да Бога.

Тым, хто вярнуў чалавеку яго першасны вобраз Бога, стаў наш Збаўца Езус Хрыстус. Ён здзейсніў справу **збаўлення** – новага стварэння, паяднаў чалавека з Богам, і зноў учыніў яго здольным адказаць на Божы заклік, здольным любіць Бога і бліжняга. Езус аднавіў страчаную сувязь чалавека са светам і стварыў новы Божы народ, дзеля якога пакліканы ўсе людзі.

Больш за тое, Сын Божы сам стаўся Чалавекам і найбольш дасканалым вобразам нябачнага Бога. Таму чым больш мы набліжаемся да Яго, тым глыбей мы адкрываем праўду пра сябе і жывём ёю. У Езусе Хрысце чалавек становіцца тым, кім ён сапраўды ёсць і да чаго пакліканы.

Напрыканцы гэтай катэхезы я хацела б прыгадаць цудоўнае выказванне святога Яна Паўла ІІ. У сваёй энцыкліцы *Redemptor Hominis* Папа піша, што чалавек, які хоча зразумець сябе да канца, павінен са сваім неспакоем, няпэўнасцю, а таксама слабасцю і грэшнасцю, са сваім жыццём і смерцю наблізіцца да Хрыста. Заглыбіцца ў Яго, у рэчаіснасць Уцелаўлення і Адкуплення, каб знайсці сябе. Калі гэта адбудзецца, то чалавек не толькі будзе праслаўляць Бога, але і будзе ў захапленні ад самога сябе.

## "Па слядах шляхетнага роду Шаняўскіх"

### У Паставах адбылася прэзентацыя кнігі Чаславы Вілейты



**Імпрэза прайшла ў нядзелю 6 чэрвеня ў парафіяльным доме пра парафіі Антона Падуанскага ў Паставах.**

**Зміцер Лупач**, *тэкст;* **Леанід Юрык**, *фота*

На прэзентацыю, якая адбылася адразу пасля святой Імшы, сабраліся сваякі і знаёмыя аўтаркі, а таксама журналісты "Каталіцкага Весніка". Супрацоўнікі газеты Леанід Юрык і Алена Пажога дапамагалі спадарыні Чаславе ў падрыхтоўцы і выданні гэтай кнігі.

У ёй яна распавяла пра трохсотгадовую гісторыю свайго роду, вывучэннем якога займалася цягам некалькіх гадоў. Па словах Чаславы Вілейты, дзявочае прозвішча якой Шаняўская, продкі далі такі наказ яе бацьку: напісаць кнігу пра свой род. Але яму гэта зрабіць не ўдалося, таму жанчына вырашыла гэта зрабіць сама.

– У мяне ж род шляхетны Шаняўскіх, хаця ў мяне бацька з Падсвілля. У Шчаўкунах мае дваюрадныя дзяды. На Полаччыне ў нас было шэсць двароў: Вушачы, Чарневічы, Селішчы, Янова, Юшкава. Вось там гэта было майго прапрадзеда. Я да XV стагоддзя раскапала ўвесь свой род. Два тыдні адпрацавала ў архіве ў Вільні і напісала першую кнігу, – кажа Часлава Вілейта.

Імпрэзу пачала ўнучка спадарыні Чаславы Аляксандра. Яна прадставіла сваю бабулю і дала ёй слова.

Аўтарка кнігі распавяла пра тыя абставіны, якія натхнілі яе на працу. Яна ўзгадала, што раней кожны прадстаўнік шляхецкага роду павінен быў ведаць сваіх продкаў як менш да пятага калена. Бо той чалавек, які не ведае гісторыю свайго роду, сваёй сям'і, не ведае і не цэніць гісторыі свайго народу, сваёй краіны. І з такімі людзьмі шляхам маніпуляцый можна рабіць што заўгодна.

Яна распавяла цікавыя выпадкі са свайго жыцця, калі людзі аддавалі ёй у дар розныя рэчы, каб у яе захавалася добрая памяць аб іх.

Часлава Вілейта заахвоціла прысутных пісаць свае ўспаміны, запісваць расповяды аб мінулым у сваіх бацькоў і дзядоў. Гэта наша гісторыя, той скарб, які немагчыма вымераць ніякімі багаццямі.

– Я буду вельмі шчаслівая, калі мая праца натхніць вас да напісання сваіх радаводаў, – такімі словамі спадарыня Часлава скончыла свой выступ.

Далей слова было прадстаўлена яе сяброўцы, арганістцы касцёла ў Паставах Ядвізе Сівіцкай. Спадарыня Ядвіга адзначыла, што ведала пра намер Чаславы напісаць пра свой радавод, але напачатку думала, што гэта будзе такая сямейная праца, якая будзе прызначана толькі сваім родным. А ў выніку атрымалася такое грунтоўнае даследаванне.

Часлава Вілейта падзякавала ўсім, хто дапамог ёй у выданні гэтай кнігі, і сама атрымала кветкі ад свайго сына Станіслава, які таксама прысутнічаў на імпрэзе. Яе дачка Марына зараз жыве ў Польшчы, таму атрымае кнігу пазней, а пакуль маці павітала яе праз Інтэрнэт.

Гэтая першая кніга Чаславы Вілейты, якая пабачыла свет. Далей у яе планах зрабіць працяг гісторыі свайго роду і асабістага жыцця пад назвай „Праўда горкая, мана салодкая". А агульную назву сваёй дылогіі яна хоча даць „Існасць моцы чалавека".

# Фонавая лексіка як важны чыннік выхавання моўнага густу

**Наколькі важны асэнсаваны выбар слоў у маўленні? Ці змяняецца характар успрымання інфармацыі ў залежнасці ад ужытых у тэксце канструкцый? Ці варта аддаваць перавагу менавіта ўласнабеларускім словам?**

**Юрась Бабіч**, *кандыдат філалагічных навук*

Гэтыя ды падобныя пытанні сапраўды з'яўляюцца надзвычай актуальнымі, калі гаворка ідзе пра захаванне высокай культуры камунікацыі, пра фарміраванне адмысловага моўнага густу грамадства.

Сродкі масавай інфармацыі з'яўляюцца ўнікальнай крыніцай папаўнення лексічнага складу мовы, аказваюць сур'ёзны ўплыў на культуру маўлення. Таму кожная лексема з адценнем навізны або свежае, раней малаўжывальнае ці неўжывальнае ўвогуле слова адразу ж прыцягвае ўвагу чытача, прымушае яго запамінаць новы для яго моўны факт, актывізуючы такім чынам пазнавальную актыўнасць увогуле.

Менавіта мова канцэнтруе і перадае найбольш важныя, сутнасныя нацыянальна-культурныя паняцці, канцэптуальныя элементы карціны свету адпаведнага этнасу. У сённяшніх умовах наша грамадства існуе паміж дзвюма культурнымі плоскасцямі – уласнабеларускай і рускай. Гэта знаходзіць сваё самае непасрэднае адлюстраванне ў мове, уплываючы на фарміраванне нацыянальнага менталітэту ці прынамсі асобных яго элементаў.

У працэсе падсвядомага засваення этнічна маркіраванай інфармацыі вялікую ролю адыгрываюць лексемы з яскрава выражаным нацыянальна-культурным кампанентам – фонавая лексіка, якая адлюстроўвае і шматвяковае духоўнае багацце этнасу, і актуальныя новыя катэгорыі, што спрые замацаванню ў свядомасці важных кампанентаў нацыянальнай моўнай карціны свету. Пад фонавай лексікай мы разумеем словы, якія ўтрымліваюць выразныя нацыянальна маркіраваныя прыметы.

Названы аспект тым больш важны цяпер, бо ва ўмовах білінгвізму дзве розныя культурныя плоскасці цалкам супадаць не могуць, хоць і маюць у якасці сродкаў сваёй рэпрэзентацыі нямала агульных лексічных адзінак. Пры такой трактоўцы праблемы на першы план выходзіць якраз уласнамоўны кампанент, словы з выразнай нацыянальнай афарбоўкай – фонавыя адзінкі, якія, акрамя ўсяго іншага, падсвядома прыцягваюць увагу чытача. У сучасных газетных матэрыялах мы ўсё часцей фіксуем мікракантэксты, у якіх якраз і ўжываюцца лексемы з падобным патэнцыялам, што самым непасрэдным чынам уплывае на агульны характар успрымання інфармацыі. Прывядзём колькі прыкладаў: *Напярэдадні Успення мы з дачкой прыехалі з* ***лецішча****, і адразу з электрычкі, з* ***заплечнікамі*** *за спінамі прыйшлі ў храм* (Звязда, 4.12.10); ***Заўзятары*** *пацягнуліся да "Мінск-Арэны", каб ускласці там кветкі ў памяць аб* ***гульцах*** *"Лакаматыва"* (Наша ніва, 14.09.11); *Другое выданне кнігі "Краіна Беларусь" выйшла* ***накладам*** *3000* ***асобнікаў*** (Наша ніва, 11.07.12); ***Кіроўца****, пазбаўлены правоў, збіў насмерць двух* ***мінакоў*** (Наша Ніва, 25.01.12); *Тутэйшая евангельская царква штогод ладзіць* ***летнікі*** *з удзелам соцень* ***маладзёнаў*** (Наша ніва, 7.11.12); *Узялі напракат вясельную сукенку,* ***замовілі кавярню*** *для самых блізкіх і сяброў* (Звязда, 24.11.12); *У меню ёсць і халодныя закускі і салаты, першыя і другія стравы, гарніры, торты і* ***марозіва****,* ***кава****,* ***гарбата*** *і алкагольныя* ***напоі*** (Наша ніва, 27.01.16). Вылучаныя тлустым у прапанаваных мікракантэкстах словы з рознай частотнасцю выкарыстоўваюцца ў сучаснай літаратурнай мове, але ўсе яны валодаюць вялікім этнамоўным – фонавым – зместам. Увядзенне ў кантэкст падобных лексем не проста робіць выказванне больш беларускім, "сваім", але і істотна ўплывае, скажам так, на вектар успрымання канкрэтнай інфармацыі. Гэта асабліва выразна бачна пры супастаўленні пададзеных фрагментаў з іх магчымымі, верагоднымі дублетамі – традыцыйнымі, звыклымі, штампаванымі, якія па сваёй сутнасці адлюстроўвалі б чужы, небеларускі характар мыслення. Можна сказаць, што наступныя варыянты выказванняў – найбольш верагодныя – былі б проста перакладзенымі з рускай мовы: *Напярэдадні Успення мы з дачкой прыехалі з* ***дачы****, і адразу з электрычкі, з* ***рукзакамі*** *за спінамі прыйшлі ў храм;* ***Балельшчыкі*** *пацягнуліся да "Мінск-Арэны", каб ускласці там кветкі ў памяць аб* ***іграках*** *"Лакаматыва";* ***Тыраж*** *зборніка песень з радзімы Н. Гілевіча даволі невялікі як па сённяшнім часе – 100* ***экзэмпляраў****;* ***Вадзіцель****, пазбаўлены правоў, збіў насмерць двух* ***прахожых****; Тутэйшая евангельская царква штогод ладзіць* ***лагеры*** *з удзелам соцень маладых* ***людзей****; Узялі напракат вясельную сукенку,* ***заказалі кафэ*** *для самых блізкіх і сяброў; У меню ёсць і халодныя закускі і салаты, першыя і другія стравы, гарніры, торты і* ***марожанае****,* ***кава****,* ***чай*** *і алкагольныя* ***напіткі****.*




Так, сэнс кожнага тэкставага фрагмента ў цэлым будзе зразумелы чытачу ў абодвух выпадках. Але падобныя сінанімічныя эквіваленты могуць разглядацца не толькі як прыклады лексічнай варыянтнасці, але і як праяўленне адмысловай дыферэнцыяцыі паводле стылістычна-прагматычнага складніка. Гэта становіцца асабліва бачным пры супастаўленні такіх лексем з іншымі, сінанімічнымі, але не надзеленымі згаданымі ўласцівасцямі (як і было паказана намі вышэй). Таму іх культурная канатацыя істотна адрозніваецца. Напрыклад, у прапанаваным раней мікракантэксце *Кіроўца, пазбаўлены правоў, збіў насмерць двух* ***мінакоў*** надзвычай выразна выяўляецца спецыфічна беларускае ўспрыманне вылучаных элементаў тэкставай мікраструктуры. *Кіроўца* – ад *кіраваць*, бо транспартным сродкам *кіруюць*, а не *водзяць* яго (як у рускай культурнай традыцыі). *Вадзіць* можна дзіця за руку ці алоўкам па паперы. Тое ж і з назоўнікам *мінак*: той, хто праходзіць міма, мінае. Тут неабходна памятаць, што семантычныя сістэмы розных моў, няхай і блізкародных, утрымліваюць лексічныя кампаненты, якія не супадаюць паводле сваёй унутранай формы і сімвалічнага патэнцыялу. "Мовы... даюць нам розныя спосабы мыслення і ўспрымання, – слушна заўважае вядомы расійскі лінгвіст М. Гарбоўскі. – Розныя мовы – гэта зусім не розныя абазначэнні адной і той жа рэчы, а розныя бачанні яе"...

*Працяг у наступным нумары*



# Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку "Газетная закрыстыя".**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету "Каталіцкі Веснік". Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:

*Газета*
*"Каталіцкі Веснік"*
*вул. Савецкая, 1*
*211793*
*г. Глыбокае*
*Віцебскай вобл.*

Даслаць ахвяраванне на св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 20 рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:

*Місевіч*
*Віктар Мар'янавіч*
*вул. Савецкая, 1*
*211793*
*г. Глыбокае*
*Віцебскай вобл.*

**Хто адпраўляе св. Імшы ў гэтых інтэнцыях?**

Гэта робяць святары ва ўсходніх раёнах Беларусі, дзе шмат небагатых парафій.

Дарагія сябры! Запрашаем Вас прыняць удзел у праекце "Газетная закрыстыя". Дашліце ахвяраванне на св. Імшу. Гэтым вы падтрымаеце святароў на ўсходзе краіны.

Будзьма адказнымі адно за аднаго. Будуйма Божае Валадарства ў нашай краіне разам! Няхай праз нашае супрацоўніцтва ў газеце "Каталіцкі Веснік" Касцёл у Беларусі мацнее і развіваецца на хвалу Божую і радасць людзям!

*Рэдакцыя*
*"Каталіцкага Весніка"*

## Інтэнцыя св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, індэкс, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена св. Імша) | |

Пазнаём Хрыста і Яго Касцёл!

# ПАЗНАВАЙКА

Дарагі сябра! Распачаліся летнія канікулы, можна адпачываць ад вучобы, але нельга адпачываць ад Бога. Бог прысутны паўсюль і побач кожную хвіліну твайго жыцця. Было б вельмі добра, каб час летніх канікул стаў для цябе магчымасцю яшчэ бліжэй пазнаць Госпада і ўмацаваць вашыя адносіны.

**1.** Паглядзі на малюнкі і адзнач тыя, на якіх адлюстраваныя моманты, праз якія ты можаш паглыбіць сваё сяброўства з Езусам.

**2.** Існуе Божы наказ, які кажа нам абавязкова прысвяціць адзін дзень Госпаду. Ці памятаеш ты, як ён гучыць? Правер сябе, выканай наступнае заданне.

Прачытай правільна, ідучы па стрэлках. Кожнае новае слова пачынаецца з вялікай літары.

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| П | О | к | й | а | р | а | М | а | ц | ь |
| а | ы | у | л | к | П | Ш | ю | й | а | е |
| м | о | к | Н | я | й | т | у | а | в | з |
| я | м | і | е | г | я | т | ы | О | а | д |
| т | п | з | е | Р | в | Т | С | а | к | я |
| а | й | Д | н | ь | С | а | в | я | т | Н |

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| ↓ | | | | | | | | | ↑ | → |
| ↓ | | | | | | | | | ↑ | |
| ↓ | | | | | | | | | ↑ | |
| ↓ | | | | | ↑ | → | ↓ | | ↑ | |
| ↓ | | ↑ | ↓ | | ↑ | | ↓ | | ↑ | |
| ↓ | → | ↑ | ↓ | → | ↑ | | ↓ | → | ↑ | |

АДКАЗ: ______________________________

**3.** Дапамажы дзецям выбраць тую дарогу, якая прывядзе іх на нядзельную святую Імшу.

**4.** Існуе адна кніга, ад якой таксама няма адпачынку. Разгадай рэбус, і даведаешся яе назву.

1.

2.

3.

4.

5. 6.

АДКАЗ:

ПАМЯТАЙ! КАНІКУЛЫ – ЧАС АДКАЗНАЙ СВАБОДЫ! СВАБОДНЫМ МОЖАШ БЫЦЬ ТОЛЬКІ З ЕЗУСАМ!

*Мастачка:* ***Вольга Будкіна****; ідэя:* ***Вікторыя Колзун***

# Адбыўся Міждыяцэзіяльны конкурс на веданне Святога Пісання



29 мая ў Віцебскай катэдры адбыўся фінал III Дыяцэзіяльнага конкурсу на веданне Святога Пісання - 2021.

**с. Дар'я Галубкова OV**, *каардынатар*

Усім прынялі ўдзел 47 дзяцей (26 з малодшай катэгорыі да 11 гадоў, 21 са старэйшай, 12-14 гадоў уключна) з 13 парафій Віцебскай дыяцэзіі і (упершыню!) з пяці парафій Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі.

Дзеці рыхтаваліся да гэтага дня некалькі месяцаў: вывучалі кнігі Тобія і Евангелле паводле Мацвея, а таксама прайшлі два папярэднія этапы конкурсу. У падрыхтоўцы дзецям актыўна дапамагалі бацькі і катэхеты. Яны таксама прыехалі падтрымаць іх у Віцебск. Дзяцей, бацькоў, катэхетаў і святароў на самым пачатку прывітаў біскуп Алег Буткевіч, які цэлебраваў святою Імшу ў інтэнцыі ўсіх удзельнікаў.

Падчас казання біскуп Віцебскі ўзгадаў словы св. Геранімa: "Той, хто не ведае Святога Пісання, той не ведае Хрыста". Ён адзначыў, што кожны, хто прыняў удзел у гэтым конкурсе, ужо перамог, бо глыбей адкрыў для сябе Божае слова і таму бліжэй пазнаў Хрыста. Біскуп заклікаў заўсёды мець у павазе тых людзей, якія вядуць нас да Бога і дапамагаюць у пазнаванні Божага слова, а таксама рупіцца, каб Божая мудрасць няспынна была прысутная ў нашым жыцці. Бо той, хто ведае Хрыста, той, хто жыве Божым словам, ніколі не будзе асаромлены.

Пасля такіх натхнёных словаў і біскупскага блаславення распачаўся сам конкурс камандным заданнем "Біблейскі алфавіт", дзякуючы якому дзеці змаглі пазнаёміцца і "разагрэцца" перад асноўнымі пытаннямі. Таксама і дарослыя атрымалі невялічкі тэст, у якім адзначыліся добрымі вынікамі.

Пасля асноўных конкурсных заданняў у малодшай і старэйшай катэгорыях вылучылася па сем чалавек з найбольшай колькасцю балаў. Яны змагаліся за прызавыя месцы, адказваючы на дадатковыя пытанні.

Многія ўдзельнікі паказалі выдатнае веданне абраных кніг Святога Пісання, нават наракалі, што пытанні былі надта лёгкімі. Тым не менш, у кожным конкурсе мусяць быць пераможцы. І імі ў малодшай катэгорыі сталі Мікуць Лідзія, Маслякова Ангеліна, Каралькова Аўрэлія.

У старэйшай катэгорыі перамаглі Бабаева Паліна, Цвірко Яраслаў, Патапейка Кацярына.

Не толькі пераможцы, але ўвогуле ўсе ўдзельнікі і іх катэхеты атрымалі дыпломы і падарункі, за якія мы ўдзячныя "Карытас Лінц" (Аўстрыя). Не абышлося і без смачнага абеду, а таксама вясёлых гульняў і танцаў, што падрыхтавалі валанцёры "Карытас".

Арганізатарам конкурсу, які адбыўся ў Віцебскай дыяцэзіі ўжо трэці раз, з'яўляецца "Карытас" Віцебскай дыяцэзіі. Мы шчыра дзякуем кожнаму, хто стаў часткай гэтай падзеі, і спадзяёмся на сустрэчу ў наступным годзе! А Слова Божае няхай будзе для нас светачам на штодзённым шляху!

# Глыбачане вызналі Езуса публічна на вуліцах роднага горада

**3 чэрвеня, ва ўрачыстасць Найсвяцейшага Цела і Крыві Хрыста, вернікі парафіі Святой Тройцы ў Глыбокім на завяршэнне працоўнага дня пасля ўрачыстай святой Імшы прайшлі Эўхарыстычнай працэсіяй па вуліцах роднага горада.**

**Марына Сінкевіч**, *тэкст і фота*

Падчас казання пробашч парафіі кс. Мікалай Ціхановіч прапанаваў паразважаць над урачыстасцю ў іншым кантэксце: вярнуцца ў вячэрнік, у тую атмасферу, дзе Езус прабываў з апосталамі, і паспрабаваць зразумець Божую Любоў, якая праліваецца на душы нават тых, хто адказвае на Яе здрадай. Пра любоў Езуса да Юды Іскарыёта.

"Сённяшняя ўрачыстасць – гэта момант, калі мы можам праявіць нашу ўдзячнасць і вызнаць Езуса публічна, перажываючы жывую маніфестацыю, выходзячы на вуліцы горада, па-за храмам, каб паказаць людзям, што Езус ёсць з намі і Ён сярод нас", – заахвоціў да ўдзелу ў працэсіі святар.

*Запрашаем праслухаць поўную аўдыёверсію прамоўленай гаміліі:*







**Правільныя адказы на тэст са старонкі 9**

1 – В; 2 – Б; 3 – А; 4 – Б; 5 – В; 6 – В; 7 – А; 8 – В; 9 – А; 10 – А


Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:** мясцовае рэлігійнае аб'яднанне "Віцебская дыяцэзія Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Выдавец:** рэлігійная місія "Дабрачыннае каталіцкае таварыства "Карытас" Віцебскай дыяцэзіі Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Дзмітрый Лупач
**Мастацкі рэдактар:** Леанід Юрык
**Рэдактар сайта:** Марына Сінкевіч
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты "Каталіцкі Веснік", перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП "Віцебская абласная друкарня", г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 2917

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 3500 экз.
Аб'ём 4 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк
Падпісана ў друк 16.06.2021 г. у 17.45

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)61-88-22
**Адрас для карэспандэнцыі:** 211793, вул. Савецкая, д.1, г. Глыбокае, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(029)736-53-07
e-mail: katalickivesnik@gmail.com
http://catholicnews.by

ISSN 2224-9621





Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь